№ 47 (884) 17 снежня 2014
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

**Эканаміст Зміцер Крук:** Нацбанк павінен тэрмінова дэвальваваць беларускі рубель удвая, каб уратаваць нашу эканоміку. Старонка 3

# АБВАЛ У РАСІІ

## Што будзе з беларускім рублём?



## Пагром у Гродне працягваецца

З універсітэта звольнілі доктара гістарычных навук Святлану Куль-Сяльверставу

Старонка 2




## Беларусы, якія ваявалі за Украіну?

Праваахоўныя органы затрымалі жыхара Баранавіч Дзмітрыя Палойку. Старонка 4




## Захавайце «беларускае сэрца» ЕГУ!

Зварот сарака відных дзеячаў культуры і грамадства.

Старонка 2




Рома Свечнікаў па выніках кругасветнага падарожжа зразумеў: 1) як добра жыве Беларусь, 2) што мужчыны палігамныя і 3) што баіцца звар'яцець

Старонка 8

## Апошнія дні падпіскі

## Падпішыцеся на паўгода!

Старонка 2

# Стаў вядомы поўны спіс кандыдатаў у рэктары ЕГУ

**16—17 снежня яны праводзяць сустрэчы са студэнтамі.**

Сярод кандыдатаў літовец Дарыус Удрыс (прарэктар ЕГУ) і Шарунас Ліекіс, а таксама выканаўца абавязкаў рэктара Дэвід Полік. Ёсць таксама нейкі Эдвард Раслоф — ніколі мы не чулі, каб гэтыя людзі былі звязаныя з Беларуссю. Сярод кандыдатаў-беларусаў — Аляксандр Мілінкевіч, Тацццяна Шчытцова, Аляксандр Краўцэвіч.

Цікава, што на сустрэчы са студэнтамі ім далі... па паўгадзіны. І ўжо праз паўгадзіны пасля апошняй сустрэчы студэнцкі актыў праводзіць «галасаванне па кандыдатурах».

Як бачым, сустрэчы вельмі кароткія, а час на абдумванне і абмеркаванне — зусім малы. Чаму так? Чаму не даць некалькі гадзін на сустрэчы, чаму не зрабіць іх у вечаровы, пасля заняткаў, час? Чаму праз 20 хвілін пасля апошняй сустрэчы «выбарная камісія» ўжо збіраецца для галасавання?

Не выключана, што гэта задумана адмыслова, бо такі падыход, відавочна, спрыяе кандыдату, на якога робіць стаўку адміністрацыя. Між тым, ад таго, хто стане рэктарам, будзе залежаць стратэгія далейшага развіцця ўніверсітэта, які ў апошнія гады узрушвалі спрэчкі і гучныя звальненні.

# ЕГУ мусіць захаваць «беларускае сэрца»

**40 дзеячоў грамадства і культуры заклікалі абраць рэктарам ЕГУ грамадзяніна Беларусі.**

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт — тая навучальная ўстанова, з якой беларускае грамадства заўсёды звязвала свае надзеі на падрыхтоўку нацыянальнай эліты.

Сёння ЕГУ стаіць перад надзвычай важным выбарам — новага рэктара, ад якога будуць залежаць шляхі развіцця ўніверсітэта.

Заклікаем захаваць «беларускае сэрца» ЕГУ.

Заклікаем абраць рэктарам ЕГУ грамадзяніна Беларусі.

**Алексіевіч Святлана**, пісьменніца
**Антусевіч Сяргей**, намеснік старшыні Беларускага Кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў
**Арлоў Уладзімір**, пісьменнік, гісторык
**Булгакаў Валер**, кандыдат філасофскіх навук
**Бяляцкі Алесь**, праваабаронца
**Вадалажская Тацццяна**, каардынатарка Лятучага універсітэта, кандыдат сацыялогіі
**Вайтовіч Аляксандр**, акадэмік, былы прэзідэнт НАН Беларусі
**Вардамацкі Андрэй**, прафесар, доктар сацыялагічных навук
**Гарэцкі Радзім**, акадэмік НАН Беларусі
**Грыцкевіч Анатоль**, доктар гістарычных навук, прафесар
**Дубянецкая Ірына**, акадэмічная дырэктарка Беларускага Калегіума
**Дынько Андрэй**, рэдактар «Нашай Нівы»
**Казакевіч Андрэй**, дырэктар Інстытута «Палітычная сфера», доктар палітычных навук
**Колас Уладзімір**, старшыня Рады інтэлігенцыі
**Крывой Яраслаў**, дырэктар Ostrogorski Center, доктар права
**Ластоўскі Аляксей**, каардынатар Беларускага Калегіума, кандыдат сацыялагічных навук
**Ліпай Аляксандр**, кіраўнік інфармацыйнага агенцтва БелаПАН
**Літвіна Жанна**, старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў
**Макоўская Алена**, каардынатарка кампаніі «Будзьма беларусамі»
**Надсан Аляксандр**, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа, дырэктар Скарынаўскай бібліятэкі ў Лондане, ганаровы доктар ЕГУ
**Някляеў Уладзімір**, паэт
**Пашкевіч Аляксандр**, рэдактар часопіса Arche, кандыдат гістарычных навук
**Пачобут Андрэй**, журналіст, актывіст Саюза палякаў Беларусі
**Пятровіч Барыс**, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў
**Радзіна Наталля**, рэдактарка сайта Charter97.org
**Салошкін Зміцер**, лекар
**Стужынская Вольга**, кіраўніца «Офіса за дэмакратычную Беларусь» (Брусэль)
**Сурвіла Івонка**, старшыня Рады БНР
**Трусаў Алег**, старшыня Таварыства беларускай мовы, кандыдат гістарычных навук
**Хадановіч Андрэй**, старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра
**Шушкевіч Станіслаў**, першы кіраўнік незалежнай Беларусі, член-карэспандэнт Акадэміі навук
**Шыдлоўская Ніна**, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»
ды іншыя, **усяго 40 подпісаў**.

# Куль-Сяльверстава: «Мы яшчэ адновім гродзенскую гістарычную школу ў вычышчаным ад навалачы ўніверсітэце»

**Пагром акадэмічных колаў Гродна працягваецца. З універсітэта звольнілі доктара гістарычных навук Святлану Куль-Сяльверставу.**



«З 29 снежня не працую. Кантракт на 0,25 стаўкі не аднаўляюць. Кажуць, не адпавядаю. Гэта радуе. Цяпер адпавядаць універсітэту ў Гродне — гэта сорам», — напісала прафесарка ў сваім Фэйсбуку.

Афіцыйная прычына звальнення навукоўца, якая аддала ўніверсітэту 35 гадоў, — «няпоўная адпаведнасць пасадзе». Маўляў, «малая публікатарская дзейнасць».

«Тое, што адбылося, я б назвала эвакуацыяй, — сказала «Нашай Ніве» Святлана Куль-Сяльверстава. — Калі звольнілі Чарнякевіча, а пасля Шведа [гісторык Андрэй Чарнякевіч і прафесар Вячаслаў Швед — НН] — я выступіла ў іх абарону. Пасля была справа Соркінай [кандыдат гістарычных навук, гісторык — НН], дзе я ўвогуле адна засталася за яе змагацца. Калегі па ўніверсітэце ўжо маўчалі. Тое, што і мяне звольняць, было ясна».

Летась Куль-Сяльверстава працавала на паўтары стаўкі на двух факультэтах, але сёлета перайшла на чвэрць стаўкі. «Звольніць мяне адразу не маглі, бо век перадпенсійны. І я паспела, амаль паспела скончыць тое, што хацела. Магла б звольніцца ў верасні, але трэ' было выпусціць аспірантку і перадаць курс маладому калегу. Курс складаны, можна сказаць, унікальны для Беларусі — спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны, пабудаваныя на беларускіх крыніцах, у тым ліку палеаграфія і храналогія. Цяпер не баюся, што гэты курс будзе страчаны».

Ці праўда, што спадарыня Святлана мела мала публікацый? Яна пералічвае свой даробак за апошнія 5 гадоў: падручнік, практыкум, дзве манаграфіі, больш за два дзясяткі артыкулаў. Але яна не друкуецца ў часопісах са спісу беларускай Вышэйшай атэстацыйнай камісіі, бо не бачыць у тым сэнсу: «Многа фармальнасцяў, а мала розгаласу, яны непапулярныя сярод навукоўцаў. Тым болей, доктар навук павінен ужо манаграфіі пісаць, а не разменьвацца на артыкулы».

«Паспрабавалі забараніць замежныя паездкі летась, — распавядае яна. — Калегі, якія выкладаюць за мяжой, напісалі тлумачэнні, на падставе гэтых тлумачэнняў атрымалі вымовы. А я не пісала: звесткі, як і калі я перасякаю мяжу, можа запатрабаваць толькі суд ці пракуратура, а не аддзел кадраў».

Замест Гродна Святлана зараз будзе працаваць у Беластоку — спецыялісты яе ўзроўню запатрабаваны скрозь. Увесну яна прайшла па конкурсе ў Беластоцкую палітэхніку ды падпісала кантракт на 6 гадоў: «Так што эвакуявалася спакойна, без страт фінансавых і ў значнай ступені маральных», — кажа Святлана.

Ці магчымае вяртанне? Так, пэўная Куль-Сяльверстава: «Нешта мне падказвае, што праз гадоў 5—6 усе звольненыя збяруцца на адной кафедры. І пачнуць аднаўляць гродзенскую гістарычную школу ў вычышчаным ад навалачы ўніверсітэце».

Звальненне дае спадарыні Святлане і падставу для радасці: «Цяпер будзе час і для вершаў». Прафесар Куль-Сяльверстава таксама вядомая як паэтка.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Сціcла

**7 сутак за пікет з крытыкай Пуціна**

Суд Цэнтральнага раёна Мінска пакараў актывіста грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» Аляксея Шубару арыштам за пікет супраць палітыкі Пуціна. Хлопца затрымалі каля Кастрычніцкай плошчы з бел-чырвона-белым сцягам і плакатам «Людзі, трэба тэрмінова спыніць Пуціна. Не Трэцяй сусветнай вайне».

**Зачынілі тры супермаркеты «Гіпа»**

Міністэрства гандлю прыпыніла працу трох «Гіпа» ў Мінску. У крамах выявілі заляжалыя тавары, рэкламу алкаголю і няправільнае афармленне зніжак. Раней за парушэнні закрытыя сем крамаў «Электрасіла» і «5 элемент», а таксама адзін «Еўраопт» у Мінску.

**Крывец — найлепшы футбаліст Беларусі**

Паўабаронца французскага «Меца» Сяргей Крывец прызнаны найлепшым гульцом Беларусі. На другім месцы абаронца БАТЭ Ягор Філіпенка, трэці — паўабаронца мінскага «Дынама» Ігар Стасевіч.

**Мінчукі змогуць атрымліваць «жыроўку» праз SMS**

Каб падпісацца на інфармацыйныя паведамленні, трэба зарэгістравацца на сайце komplat.by. Паведамленні каштуюць 300 рублёў на месяц.

**АА, ЯМ**

## Апытанні на nn.by

**Ці мусіць Беларусь далучыцца да санкцый Расіі супраць ЕС?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 60 | 5% |
| Не | 345 | 32% |
| Беларусі трэба далучыцца да санкцый ЕС супраць Расіі | 688 | 63% |

Прагаласавала 1093 чалавекі

## Самае чытанае на nn.by за 10—16 снежня

1 Лукашэнка склікаў Раду бяспекі для абмеркавання Плана абароны Беларусі
2 Паніка ў Расіі: даляр дасягаў 80 рублёў, еўра — 100, курс вагаецца. Мядзведзеў збірае кабінет
3 Ліст хірурга з Дуброўна, што займаўся хлопцам, якому ампутавалі руку
4 Беларус ці амерыканец? Сталі вядомыя кандыдаты на пасаду рэктара ЕГУ
5 Паліцыя Екацярынбурга прагнала з метро лідара гурту «Чайф»
6 Другі «Дзень вышыванкі» прайшоў пры поўным аншлагу ФОТЫ
7 Гіркін-Стралкоў: Трэба рыхтавацца да вялікай вайны
8 Жонка прэс-сакратара Пуціна закупіла ў Еўропе забароненыя для ўвозу прадукты
9 Унучкі Лукашэнкі перамаглі на конкурсе «Маладыя таленты Беларусі»
10 «Земляпорна»: 12 найлепшых здымкаў нашай планеты

# Эканамісты: Дэвальвацыя беларускага рубля непазбежная

Падзенне цаны нафты і агрэсія супраць Украіны прывялі да некантраляванай дэвальвацыі ў Расіі.

За даляр у Расіі даюць ужо 72 рублі. Гэта біржавыя дадзеныя на 17:00 16 снежня. За некалькі гадзін да таго курс дасягаў 78 рублёў! Што будзе далей, не ведае ніхто. Сітуацыя выйшла з-пад кантролю Пуціна.

**Краіна-бензакалонка**

У чым галоўная прычына дэвальвацыі расійскага рубля? Іх дзве.

Па-першае, свет баіцца гандляваць з Расіяй і пазычаць ёй грошы пасля агрэсіі ва Украіне. Нават мяккія санкцыі Захаду мелі вялікае псіхалагічнае ўздзеянне. Капітал стаў уцякаць з краіны: хто ведае, які фартэль такі рэжым выкіне заўтра?

Па-другое, наклалася падзенне цэнаў на нафту. Цана барэля нафты маркі Brent упала ніжэй за $60 упершыню з ліпеня 2009 года. Яшчэ ўлетку цана трымалася на ўзроўні $105—110. А Расія экспартуе толькі нафту і газ, мала што яшчэ.

Даходы бюджэту Расіі на 55% складаюцца з мытаў на нафту і газ, акцызаў на бензін і салярку, а таксама падатку на здабычу карысных выкапняў. Залежнасць гіганцкая, і любыя ваганні сусветных цэнаў неадкладна адбіваюцца на расійскай валюце. На графіку відаць, што рубель апускаецца ўслед за цаной на нафту.

Дадатковыя праблемы для рубля ствараюць агромністыя пазыкі дзяржаўных карпарацый, якія павінны аддаваць грошы ў валюце, а таму выкупляюць яе на біржы. Напрыклад, «Раснафта» ў верасні мусіла пагасіць $63 мільярды! Набралі крэдытаў па горла!

Яшчэ ў лютым 2014 года Казахстан правёў «апярэджвальную» дэвальвацыю. Курс даляра вырас на 18%. З таго часу тэнге нават крыху ўзмацніўся

**Спроба ратавання і спіраль панікі**

15 снежня нафта ў свеце даражэла, а вось расійскі рубель нечакана абваліўся на 12%. Такога не было з часоў дэфолту 1998 года. Курс даляра дасягнуў 65 рублёў.

Сітуацыя нагадала дэвальвацыю беларускага рубля ў 2011 годзе. Лукашэнка паўтараў: «У нас няма крызісу!», Нацбанк баяўся рэагаваць, паніка ў фінансавых колах і грамадстве нарастала. У нейкі момант нарыў прарвала.

Банк Расіі мае большую самастойнасць. Тэрміновым начным рашэннем фінансісты ўзнялі ключавую стаўку (аналаг беларускай стаўкі рэфінансавання) з 10,5% да 17%. Пад ударам апынуліся прамысловасць і сельская гаспадарка, крэдыты для якіх цяпер стануць недаступнымі, а таксама будаўніцтва, якое сілкавалася іпатэчнымі крэдытамі. (Беларускія будаўнікі масава пачнуць вяртацца.)

Адчайная спроба спыніць дэвальвацыю дала плён, курс даляра за ноч упаў з 65 да 58 рублёў. Фінансісты ўздыхнулі з палёгкай, аднак рашэнне Цэнтрабанка выклікала шок у прамыслоўцаў.

Група дэпутатаў ад левай «Справядлівай Расіі» заклікала вярнуць абавязковы продаж экспарцёрамі валютнай выручкі. Але ў расійскай сітуацыі гэта прывядзе да адтоку сотняў мільярдаў даляраў, якія выведуць з краіны за-

**Нерухомасць у Расіі патаннела на 25%**

З пачатку гэтага года квадратны метр патаннеў у пераліку на даляры на 25%.







**Графік падзення нафты маркі Brent і расійскага рубля. Калонка справа — курс рубля да даляра.**

межныя інвестары, папярэдзілі ў адказ прадстаўнікі Міністэрства фінансаў. Даверу да расійскай эканомікі і так няшмат, а такімі антырынкавымі прапановамі яго можна перакрэсліць канчаткова.

Аднак нават на навіне пра рост стаўкі свабодных грошай расійскага Цэнтрабанка 16 снежня хапіла толькі да абеду. Пасля 14:00 даляр не толькі адыграў начное падзенне, але і дасягнуў новых рэкордаў. За дзень біржавы курс вырас з 58 да 72 рублёў, на 25%! Рынкам кіруе паніка.

**Беларускі рубель пад пагрозай**

У тым, што расійскі крызіс б'е і па Беларусі, не сумняецца ніводзін эксперт. Экспарт беларускіх тавараў у студзені-кастрычніку 2014 года склаў $31,2 мільярда, прычым доля Расіі ў экспарце склала 45%. Разлікі з усходнім суседам усё часцей ідуць у расійскіх рублях.

Асацыяваны эксперт Даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту Зміцер Крук мяркуе, што Нацбанк мусіць апераджальна рэагаваць на абвал у Расіі. На яго думку, курс беларускага рубля да расійскага мусіць адпавядаць таму, які быў у пачатку года.

Курс расійскага рубля складаў 290 беларускіх рублёў. Выходзіць, даляр мусіць каштаваць у 60—70 разоў больш — каля 20 тысяч беларускіх рублёў.

Фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра «Альпары» ў Мінску Вадзім Іосуб кажа, што трэба рабіць беларускі рубель больш гнуткім: «Год таму быў зададзены прынцып курсаўтварэння — кожныя таргі даляр ці вырастае на 10 рублёў, ці застаецца на месцы. Гэты рэжым не зміняецца, што б вакол краіны ні адбывалася. Надышоў час ад яго адмовіцца і зрабіць так, як было задэкларавана ў Асноўных кірунках грашова-крэдытнай палітыкі: каб курс нацыянальнай валюты змяняўся пад уплывам попыту і прапановы».

Аднак беларускія ўлады пакуль ніяк не дэкларуюць гатоўнасць адпусціць нацыянальную валюту ў свабоднае плаванне.

«Пытанне курсаўтварэння ў Беларусі не эканамічнае, а палітычнае, таму не факт, што яно ўвогуле знаходзіцца ў сферы кампетэнцыі Нацбанка. Нацбанк павінен атрымаць указанне ці як мінімум згоду на адмову ад ранейшай стратэгіі», — падсумоўвае Іосуб.

*Ягор Марціновіч*

# Што будзе ў 2015?

«Наша Ніва» папрасіла вядомых беларусаў зрабіць прагноз на наступны год. Курс рубля, выбары, палітыка — што будзе з радзімай і з намі?

**Валер Карбалевіч, палітолаг**

У мяне пытанне: ці змогуць нашыя ўлады знайсці замежныя крэдыты? Калі не знойдуць, то давядзецца рабіць дэвальвацыю. Сітуацыя для ўлады няпростая. Але што наш рубель будзе слабець — гэта безумоўна.

**Дзяніс Блішч, галоўны рэдактар партала Onliner.by**

Я не эканаміст, але мне здаецца, для дэвальвацыі ёсць падставы.

У мяне ёсць адчуванне, што ў наступным годзе спросцяць працэдуру выдачы шэнгенскіх візаў для беларусаў. Я вельмі на гэта спадзяюся.

Прынцыпова ж, я думаю, нічога не зменіцца, і Беларусь працягне развівацца ў тым жа кірунку.

**«А Расіі можа і не стаць»**

**Лявон Вольскі, музыка:**

У наступным годзе трэ' будзе працаваць ужо па-сапраўднаму, а не так, як большасць людзей прызвычаілася!

Ад рубля я нічога не чакаю. Варта ад чаканняў пераходзіць да справаў, нешта самім планаваць і выконваць. І рабіць, а не ўвесь час чакаць, бо ўсе заўсёды нечага чакаюць. Гэта вялікая бяда, што людзі ўсё нечага чакаюць ад дзяржавы.

Што тычыцца выбараў, то мне здаецца, пакуль існуе такая расстаноўка сіл, выбары абмяркоўваць увогуле не варта. А Расіі ў цяперашнім выглядзе можа ўвогуле не стаць у наступным годзе. Ва ўсіх сэнсах — можа, і краіны такой не будзе ў сённяшнім яе варыянце.

**Святлана Калінкіна, журналістка**

Беларускае кіраўніцтва нарабіла так шмат памылак за 20 гадоў, што само будзе не ў стане іх выправіць, і будзе чапляцца за сваю ранейшую палітыку. Таму я чакаю, што прэзідэнтам застанецца Лукашэнка, і Расія па-ранейшаму будзе гуляць з Беларуссю як кот з мышшу.

Людзі абуджаюцца, адчуваюць сябе беларусамі. Але палітыка апошніх гадоў прывяла да таго, што народаўладдзе ў краіне цалкам страчанае. Адзіная надзея, што грамадства заявіць аб тым, што яно хоча і можа браць удзел у прыняцці важных рашэнняў у жыцці дзяржавы, прадэманструе сваю незадаволенасць. Але ці зробіць яно гэта — вялікае пытанне. Бо ўкраінскія падзеі, з аднаго боку, паспрыялі таму, каб людзі задумаліся, хто яны і куды ісці далей. А з іншага — напалохалі, а выразам «абы не было вайны» можна апраўдаць усё: дыктатуру, палітвязняў, эканамічныя страты, дэвальвацыю і ўсё астатняе.

**Ох, цяжка будзе**

**Юры Зісер, заснавальнік партала Tut.by**

Ад выбараў я нічога не чакаю. І адносіны з Расіяй таксама не зменяцца. А ў эканоміцы крызіс непазбежны. Ён выкліканы як унутранымі, так і знешнімі прычынамі. Наступны год і 2016 будуць для беларусаў вельмі цяжкімі. Можа, не як у 2011, можа, мякчэй, але сітуацыя будзе супастаўнай. Я гляджу на рэчы дастаткова змрочна.

**Будзе ці дрэнна, ці зусім дрэнна**

**Станіслаў Багданкевіч, экс-старшыня Нацбанка Беларусі**

Эканамічная сітуацыя будзе залежаць ад дзеянняў улады і Нацбанка. Калі нічога не мяняць, то інфляцыя будзе ад 20 да 30%, а наш рубель можа ўпасці на тую ж долю, што і расейскі.

Трэба нарэшце скараціць інфляцыю да адназначнай велічыні. Тая лічба, якая была запланавана — 13%, — гэта ні ў якія рамкі не лезе, трэба каб яна была 5% максімум, а калі гэта немагчыма, то хаця б меней за 10%.

**Зміцер Крук, эканаміст**

Эканамічная сітуацыя адназначна будзе горшаць, але ж у якіх памерах, пакуль цяжка сказаць. Бо яшчэ не вызначаная цана на нафту і невядома, што будзе з расейскай эканомікай. Але добра не будзе: ці дрэнна, ці зусім дрэнна.

Будуць гандлёвыя войны. І дапамога з расейскага боку будзе скарачацца. Дай божа, каб пералічылі тыя нафтавыя пошліны, аб якіх дамовіліся. Агульны фон адносінаў з Расіяй будзе дастаткова нервовы.

Мы прапанавалі падзяліцца прагнозамі і іншых вядомых людзей. Аднак з розных прычынаў яны ад каментароў адмовіліся. Так, напрыклад, стваральніца партала citydog.by Ірына Віданава паведаміла, што яна не вельмі любіць рабіць прагнозы. Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч пажартаваў, што палітыка і эканоміка — не ў яго кампетэнцыі. А экс-прэм'ер-міністр Уладзімір Ярмошын параіў знайсці кагосьці больш вопытнага за яго. І на каго гэта ён намякае?

*Улад Швядовіч*

# «Паводзіны ўсходняга брата не могуць не насцярожваць»

Лукашэнка склікаў Раду бяспекі для абмеркавання **Плана абароны** Беларусі.

Павінны быць гарантаваны вайсковая бяспека і сацыяльна-палітычная стабільнасць у грамадстве. Такую задачу паставіў Аляксандр Лукашэнка на пасяджэнні Рады бяспекі. Лукашэнка падпісаў План абароны Беларусі проста на пасяджэнні, пры тэлекамерах. Ад каго ж бараніцца будзем?

«Усе павінны разумець, што нікому не будзе дазволена размаўляць з нашай краінай з пазіцыі сілы. Мы не гіганцкая дзяржава, не маем ядзернай зброі, але наша армія дастаткова баяздольная, каб адказаць на любую пагрозу. І не толькі армія. Увесь народ», — цытуе Лукашэнку агенцтва БелТА.

**«Мы не драматызуем сітуацыю. Мы проста хочам яснасці»**

«Мы не хочам хадзіць пад бізуном і каб нямі памыкалі з дня ў дзень, з гадзіны ў гадзіну. Таму мы будзем берагчы свой кавалак зямлі, сваю дзяржаўнасць і сваю незалежнасць», — падкрэсліў Лукашэнка.

«Мы не ставім сваёй мэтай развязаць вайну, але абавязаныя рабіць усё, што ад нас залежыць, каб гарантаваць бяспеку і стабільнасць у грамадстве», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Паводле яго слоў, «калі нехта думае, што мы спецыяльна нагнятаем абстаноўку ўнутры нашага грамадства і дзяржавы, калі хто-небудзь думае, што мы спецыяльна шукаем нейкіх замежных ворагаў, то глыбока памыляецца».

«У нас якраз такі перыяд развіцця дзяржавы, калі нам не патрэбныя ні замежныя ворагі ў выглядзе нейкага пудзіла, ні нейкая ўнутраная насцярожанасць, — сказаў Лукашэнка. — Нам патрэбны мір і спакой».



Лукашэнка дадаў, што калі ў кагосьці з'явіцца думка прыйсці да нас з мячом, то ён таксама павінен быць упэўнены, што ад гэтага мяча атрымае.

Аляксандр Лукашэнка не назваў ніякага патэнцыйнага праціўніка і выкрываў нарошчванне ваеннага патэнцыялу НАТА ў Цэнтральнай Еўропе, але адначасова падчас пасяджэння заявіў, што «чакае яснасці ад Расіі ў дачыненні да Беларусі», перадае карэспандэнт БелТА.

«Паводзіны сёння нашага ўсходняга роднага брата не могуць не насцярожваць. Але мы пакуль не робім з гэтага нейкіх высноў, я ў тым ліку, да размовы з прэзідэнтам Расіі», — адзначыў Лукашэнка.

«Я хачу ўсё-такі высветліць: навошта патрэбна такая палітыка Расійскай Федэрацыі ў дачыненні да Беларусі», — дадаў Лукашэнка.

«Але не ўлічваць гэта, вядома ж, нельга, — адзначыў Лукашэнка. — Мы не драматызуем сітуацыю, яшчэ раз падкрэсліваю. Мы проста хочам яснасці».

«Мы з вамі калісьці канстатавалі, што галоўныя пагрозы для нашай краіны крыюцца ў эканоміцы, іншых якіхсьці пагрозаў, у тым ліку з боку няўрадавых арганізацый, нейкай радыкальнай апазіцыі, яшчэ чагосьці, няма і быць не можа, — сказаў Лукашэнка. — Нягледзячы на тое, што ў нас некаторыя крылы апусцілі і перасталі працаваць, народ церпіць гэтую ўладу».

Лукашэнка падкрэсліў, што эканоміка для любой дзяржавы — небяспечны кірунак удару, асабліва для экспартна арыентаванай.

Як вядома, захопу Расіяй Крыма і Данбаса папярэднічала эканамічная блакада Украіны і навязванне Кіеву нявыгадных умоваў пастаўкі энерганосьбітаў, што паставіла ўкраінскую эканоміку на мяжу краху.

**Мікола Бугай**

# Елбасы ўзяўся крута

Казахстанца, які ваяваў **за сепаратыстаў Данбаса**, асудзілі на 5 гадоў.

У Астане да пяці гадоў калоніі строгага рэжыму асудзілі 30-гадовага грамадзяніна Казахстана Яўгена Удавенку, які ваяваў на баку луганскіх сепаратыстаў на ўсходзе Украіны.

Яго прызналі вінаватым ва «ўдзеле ў замежных узброеных канфліктах».

Паводле абвінавачага прысуду, Удавенка ўдзельнічаў у баях на ўсходзе Украіны, ужываў зброю, ахоўваў блокпасты, патруляваў Луганск і выконваў іншыя даручэнні.

Казахстанец сцвярджаў, што звязаўся з сепаратыстамі праз «Укантакце». У Растове-на-Доне ён далучыўся да групы, якая складалася з трыццаці чалавек, і разам з ёй незаконна перасёк мяжу Расіі і Украіны, пасля чаго адправіўся ў Луганск.

Абвінавачаны часткова прызнаў сваю віну. Пры гэтым на пасяджэнні суда ён адмаўляў якія-небудзь намер у здзяйсненні злачынства.

Па словах Удавенкі, ён знаходзіўся ва Украіне прыкладна 70 дзён, пасля чаго захварэў на бранхіт і вырашыў вярнуцца дадому. З кастрычніка ён знаходзіўся пад арыштам.

Пасля пачатку падзей ва Украіне нязменны лідар Казахстана Нурсултан Назарбаеў, якога там называюць *«елбасы»*, што значыць «лідар нацыі», узяў выразны нацыянальны курс.

**Сяргей Гезгала**

# Затрыманы беларус, які фігуруе ў спісе батальёна «Данбас»

**Дзмітрый Палойка** з Баранавіч асуджаны на 10 сутак арышту.

Праваахоўныя органы затрымалі жыхара Баранавіч Дзмітрыя Палойку, піша сайт праваабаронцаў-вясноўцаў spring96.org. Ён змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання і асуджаны да 10 сутак арышту.

Праваабаронца Сяргей Гоўша паведаміў: «Праз знаёмых я даведаўся, што на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за дробнае хуліганства». Акрамя таго, ён адзначыў, што міліцыя дапытвае ўсю радню Дзмітрыя Палойкі і забараняе сваякам пакідаць Баранавічы.

Вядома, што апошнія паўгода мужчына праваў ва Украіне. Імя Палойкі прысутнічае ў «злітых» у інтэрнэт спісах батальёна «Данбас», які быў ударнай сілай у антытэрарыстычнай аперацыі, што праводзілася Украінай у Данбасе. Як мяркуюць ва Украіне, спісы былі здабытыя і апублікаваныя расійскімі спецслужбамі. Праўда, ёсць імавернасць, што гэтыя спісы несапраўдныя.

У Баранавічах кажуць, што Зміцер Палойка прыехаў, каб прадаць сваю кватэру. Пасля гэтага хлопец збіраўся вярнуцца ва Украіну, дзе ў яго ёсць нявеста. Усяго, як мяркуецца, у склад розных украінскіх добраахвотніцкіх батальёнаў уваходзіла не менш за 20 беларусаў.

Гэтыя батальёны ваявалі на перадавой увесну і ўлетку 2014 года. Яны адыгралі галоўную ролю ў стрымліванні расійскіх штурмавікоў у перыяд, калі баяздольнасць украінскай прафесійнай арміі была нізкай.

Былі звесткі, што астатніх беларусаў-добраахвотнікаў па вяртанні з Украіны таксама затрымлівалі на 10 сутак і дапытвалі ў КДБ.

**СГ**

# Алесін пад падпіскай

Журналіста больш не вінавацяць **у здрадзе дзяржаве**.

Журналіст газеты «Беларусы і рынак», вайсковы эксперт Аляксандр Алесін выпушчаны са следчага ізалятара КДБ пад падпіску аб нявыездзе.

Паводле словаў Алесіна, з яго знятае абвінавачванне ў здрадзе дзяржаве, цяпер яго абвінавачваюць толькі ў супрацоўніцтве з замежнымі спецслужбамі, за што Крымінальным кодэксам прадугледжанае больш мяккае пакаранне.

«Я лічу гэта падставай з боку тых, з кім я супрацоўнічаў. Яўна ці няяўна мяне падставілі. Я нічога незаконнага не рабіў, браў інфармацыю з адкрытых крыніц», — пракаментаваў сітуацыю радыё «Свабода» Алесін.

Па інфармацыі «НН», журналіст быў затрыманы яшчэ 25 лістапада ў кавярні ў цэнтры Мінска. Разам з ім у кавярні знаходзіўся замежны дыпламат.

Вызваленне Алесіна пад падпіску можа азначаць, што ніякіх фактаў ягонай віны няма. Гэтаксама раней вызвалілі ксяндза Лазара — і справа не пайшла ў суд.

**ЗП**



# Рэктарам Акадэміі кіравання стаў дэпутат-камуніст

**Марат Жылінскі** даследуе гісторыю Беларусі пад нямецкай акупацыяй.

Аляксандр Лукашэнка прызначыў новага рэктара Акадэміі кіравання пры прэзідэнце. Ім стаў 38-гадовы гісторык Марат Жылінскі.

Жылінскі прыйшоў у палату прадстаўнікоў з пасады намесніка дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук па навуковай рабоце. Яго кандыдацкая дысертацыя называлася «Адукацыя на акупаванай тэрыторыі Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны».

Жылінскі — адзін з нямногіх дэпутатаў, якія маюць партыйную прыналежнасць. Ён сябра вернай Камуністычнай партыі.


SOYUZ.BY

Гісторык займаў шостае месца ў спісе самых багатых кандыдатаў у дэпутаты, яго афіцыйны сярэднямесячны даход у 2011-м складаў амаль 13 мільёнаў рублёў.

**ЯМ**

# Lada Granta патаннела да 4000 даляраў!

Абвал рубля зрабіў расійскія тавары звышдаступнымі. Але **толькі ў Расіі**.

За няпоўныя 4000 даляраў у Расіі можна набыць Lada Granta — пяцімесцавы седан з бензінавым рухавіком аб'ёмам 1,6 літра і магутнасцю 84 л.с.

У Беларусі цэны на «Лады» заўважна адрозніваюцца ад расійскіх. Тая ж мадэль у той жа камплектацыі ў беларускага імпарцёра «Мінск-Лада» каштуе 8400 даляраў.

«Розніца выкліканая двайной выплатай утылізацыйнага збору, — расказаў «Нашай Ніве» маркетолаг «Мінск-Лада». — У Расіі дзейнічае праграма ўтылізацыі аўтамабіляў, якую падтрымлівае АўтаВАЗ. У нас такой праграмы няма, і ў найбліжэйшы час яна не прадугледжваецца для экспартных рынкаў», — тлумачыць ён.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Людзі на мяжы адчаю

**На ААТ «Забудова»** заробак выплацілі толькі пасля публікацый у незалежных СМІ.

У пачатку снежня рабочыя «Забудовы» яшчэ сядзелі без заробку за кастрычнік. Людзі баяліся, што святы ім прыйдзецца сустракаць без зарплаты.

«Наша Ніва» два дні спрабавала атрымаць адказ ад кіраўніцтва завода па запыце нашых чытачоў з пасёлка Чысць Маладзечанскага раёна: чаму затрымліваюць заробкі. З прыёмнай нас перакіроўвалі ў бухгалтэрыю, з бухгалтэрыі — да ідэолага. Ідэолаг у працоўны час так і не адказваў. Таму для публікацыі на сайце мы былі вымушаныя проста ўзяць матэрыял рэгіянальнага сайта Kraj.by. Без каментароў кіраўніцтва «Забудовы».

І толькі пасля гэтага нам, нарэшце, адказаў Генрых Кутас, намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай працы, сацыяльным развіцці і аграрных пытаннях ААТ «Забудова». Навіна ў яго была добрая: «Усе даўгі пагашаны — на мінулым тыдні грошы былі пералічаныя супрацоўнікам прадпрыемства».

Застаецца спадзявацца, што гэта апошні такі выпадак. Але ж праблемы з выплатай заробку на «Забудове» — некалі адным з найбагацейшых прадпрыемстваў Беларусі — у 2014 годзе ўзнікалі рэгулярна. Мінулы раз рабочыя звярталіся да журналістаў зусім нядаўна, у верасні. Дай бог, каб мы больш не атрымлівалі з Чысці сігналаў «SOS».

**Уладзіслаў Швядовіч**



**У апошнія тыдні ў «НН» пайшла хваля лістоў з розных прадпрыемстваў. Людзі скардзяцца на затрымкі заробкаў, скарачэнні і прастоі.**

## «Гарызонт» — на трохдзёнцы

З 1 студзеня ПВУП «Завод электронікі і бытавой тэхнікі Гарызонт» пераходзіць на трохдзённы рэжым працы, паведаміў партал tut.by. «Кіраўніцтва прадпрыемства ад супрацоўнікаў нічога не хавае. У нас ёсць складанасці з рэалізацыяй прадукцыі: падаюць продажы тэлевізараў. Каб знайсці выхад з гэтай сітуацыі, мы вырашылі перайсці на трохдзёнку», — патлумачыў менеджар па замежнаэканамічных сувязях «Гарызонта» Андрэй Саўрыцкі.

Ужо некалькі месяцаў людзі тут працавалі чатыры дні на тыдзень. Пры гэтым і заробкі на прадпрыемстве, якое выпрацоўвае тэлевізары, ясна, не вялікія — ад 3 да 4,5 мільёна рублёў.

**УШ**

## МАЗ спыняе працу на Новы год




**Вымушаны адпачынак** пачнецца 25 снежня і працягнецца да 12 студзеня.

Ад жніўня на МАЗе перайшлі на «чатырохдзёнку», падкарацілі заробкі.

«Месяцы тры таму перайшлі на чатырохдзёнку, але не ўсе цэхі. Тая частка, што выпускае аўтобусы, працай загружаная. Таму і заробак ва ўсіх розны — ёсць і 8 мільёнаў. Але большасць атрымліваюць па 4—5, а інжынеры — зусім па 3—4. Зрэзалі ўсе даплаты: забралі 13-ты заробак, спынілі даплаты «на гародніну», «да святаў». А самае галоўнае — завод будзе стаяць: з 25-га сыходзім у адпачынак аж да 12 студзеня», — распавёў інтэрнэт-газеце «Салідарнасць» адзін з супрацоўнікаў прадпрыемства.

Прычынай праблем называюць тое, што МАЗ страчвае расійскі рынак грузавых аўтамабіляў: яго доля там упала з 11,3% у першым квартале да 10,1% на выніках 9 месяцаў. А з улікам стагнацыі расійскай эканомікі гэта азначае, што продаж грузавікоў знізіўся нават на 20%. Дык тое яшчэ да абвалу, што здарыўся ў апошнія дні...

**Сяргей Гезгала**

## У Барысаве — забастоўка

У чацвер 11 снежня рабочыя цэха перапрацоўкі піламатэрыялаў Барысаўскага дрэваапрацоўчага камбіната прыйшлі на свае працоўныя месцы, але пачынаць працу адмовіліся.

Прычынай стала затрымка заробку. Замест 4 мільёнаў рублёў, рабочыя атрымалі толькі каля 600 тысяч. Са словаў кіраўніцтва, падставай для гэтага сталі невыкананыя нормы і святы ў Расіі.

У бухгалтэрыі прадпрыемства на пытанні журналістаў адказалі коратка: «Даведак не даём». Спробы датэлефанавацца да намесніка дырэктара па ідэалогіі скончыліся нічым.

**УШ**

## Работнікі Мінскага гадзіннікавага: Сумнае становішча ў нас

Супрацоўнік Мінскага гадзіннікавага завода паскардзіўся: перад Калядамі прадпрыемства знаходзіцца ў найлепшым стане.

Мужчына, які пажадаў застацца ананімным, расказаў, што на заводзе «мізэрныя заробкі», а рабочыя баяцца яшчэ і «канікул» за свой кошт: «Ходзяць чуткі, што ўсіх збіраюцца перавесці на 2/3 аклада. А мой заробак і так — няпоўныя 3 мільёны. Дый што ў нас за работа? Гадзіннікаў не робім, толькі збіраем. Вязуць хлам па частках з Кітаю, тут збіраюць, грузяць у кантэйнеры — і назад у Кітай ці Расію».

Супрацоўнік журыцца, што такое становішча на заводзе доўжыцца «ужо гады тры» — з той пары, калі кантрольны пакет акцый Мінскага гадзіннікавага завода выкупіла швейцарская кампанія Franck Muller, якой валодае армянскі мультымільянер Вартан Сірмакес. Завод займае каштоўныя памяшканні вялікай плошчы ў цэнтры Мінска, а сам ён ні жывы ні мёртвы, кажа чалавек.

Кіраўніцтва завода, аднак, абвяргае чуткі пра перавод работнікаў на 2/3 аклада. Намеснік дырэктара ААТ «Мінскі гадзіннікавы завод» па ідэалагічнай рабоце, сацыяльных пытаннях і кадрах Дзмітрый Карань патлумачыў «НН», што «ніякіх загадаў пакуль не было і завод працуе ў звычайным рэжыме».

Але яшчэ адна супрацоўніца зборачнай лініі хоць і паведаміла «НН», што працы пакуль хапае і пра змяншэнне акладу ці адпачынак за свой кошт яна не чула, але прызнала, што завод знаходзіцца ў «сумным становішчы».

**Кірыла Хілько**

## Супрацоўнікі сталічнай паліклінікі паскардзіліся ў «Нашу Ніву» на затрымку заробку

Наша чытачка працуе ў мінскай паліклініцы №15, якая абслугоўвае тралейбусны парк №3 і аўтобусны парк №5. Па яе словах, паліклініка не можа выплаціць сваім супрацоўнікам заробак, бо транспартнікі яшчэ не пералічылі ёй грошы.

«Заробак меўся быць яшчэ ў пятніцу, але мы нічога не атрымалі, — паведаміла супрацоўніца паліклінікі. — І невядома, ці будзе нешта сёння. А як людзям жыць? У мяне, напрыклад, крэдыт, які трэба пагашаць. Але за якія грошы?»

У сваю чаргу, бухгалтары аўтобуснага і тралейбуснага паркаў супакоілі, што грошы будуць. І «тралейбуснікі», і «аўтобуснікі» пэўныя сумы лекарам пералічылі. Але не ўсе.

«Часткова мы пералялі. Больш цяпер проста няма. Як з'явяцца на нашых рахунках яшчэ — адразу будзем накіроўваць іх у паліклініку», — паведаміла Вольга Базылёва, галоўная бухгалтарка аўтобуснага парку №5.

Прыкладна тое ж самае адказалі і ў тралейбусным парку. Абодва прадпрыемствы патлумачылі затрымку няпростай фінансавай сітуацыяй.

**УШ**

## На «Атланце» скарачаюць?

У Рэдакцыю «Нашай Нівы» звярнуўся чытач, які працуе на мінскім заводзе ЗАТ«Атлант». Мужчына паскардзіўся на сваіх працадаўцаў. Па яго словах, на прадпрыемстве скарачаюць людзей, замаскіраваўшы гэта пад непадаўжэнне кантрактаў.

Па яго словах, спачатку на прадпрыемстве прапануюць заняць вакантнае месца не па спецыяльнасці. Пасля таго, як супрацоўнік адмаўляецца, кантракт з ім вырашаюць не працягваць.

Намеснік гендырэктара па ідэалагічнай працы і персанале ЗАТ «Атлант» Аляксандр Машко паведаміў, што падпісанне, падаўжэнне і спыненне кантрактаў ажыццяўляюцца ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Беларусі. Што ж тычыцца колькасці супрацоўнікаў, кантракты якіх не будуць падоўжаны, і іх спецыяльнасцяў, і парушэнняў працоўнага кодэксу, то гэтае пытанне прадстаўнік «Атланта» праігнараваў.



**УШ**

## Як «Нашу Ніву» спрабавалі дэзінфармаваць пра СВК «Багданаўскі»

Часам звароты ў рэдакцыю аказваюцца не справядлівымі скаргамі на кіраўніцтва, а звядзеннем рахункаў, проста паклёпам. Ці правакацыяй.

Так можна расцэньваць, напрыклад, ліст, атрыманы Рэдакцыяй у пачатку снежня. Чытач у ім прадставіўся супрацоўнікам СВК «Багданаўскі» з Валожынскага раёна Мінскай вобласці. У лісце, які быў напісаны добрай беларускай мовай, маляўніча расказвалася пра мізэрныя заробкі на тым самым СВК, якія, да таго ж, і не плацяць.

«Увогуле, не люблю скардзіцца на каго- альбо што-небудзь. Свае праблемы імкнуся вырашаць самастойна, без чыёй-небудзь дапамогі. Але цяпер абставіны скласліся такім чынам, што для вырашэння праблемы неабходна Вашая дапамога, — горка наракаў аўтар. — Спадзяёмся, што Вы не застанецеся ў баку ад нашага гора, і, з'яўляючыся сапраўднай народнай газетай, падзелецеся агучанай праблемай з чытачамі».

Што ж, сталі мы званіць, правяраць, разбірацца. Аказалася, на прадпрыемстве праблем няма. Нармальна працуюць — сярэдні заробак 4 млн 200 тысяч. Запазычанасцяў няма, усе заробкі выплачаныя.

А што ж аўтар скаргі? Усе спробы звязвацца з ім ён праігнараваў.

**Рэд.**

### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе факты парушэння вашых правоў, няўплату заробкаў, несправядлівасці. У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы наракані павінны быць законнымі і справядлівымі.

Пішыце, як Вам зручна, — на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**
**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**
**Skype: nashaniva**

# Я не вінаваты, гэта ўнікальны выпадак

**У Рэдакцыю «НН» прыйшоў ліст хірурга з Дуброўна, што займаўся хлопцам, якому ампутавалі руку.**



Паважаная Рэдакцыя, пішу вам з нагоды дадзенай сітуацыі, бо шмат меркаванняў, хачу, каб чытачы даведаліся, як усё было, хачу звязацца са сваімі калегамі, у якіх былі падобныя выпадкі, і так дайсці да ісціны і вызначыць, хто дапусціў фатальную памылку.

Калі ласка, апублікуйце мой адказ максімальна даслоўна, дайце спасылку на маю электронную скрыню, каб чытачы маглі звязацца са мной, так вы дапаможаце зрабіць нашу медыцыну яшчэ больш эфектыўнай. Загадзя вельмі ўдзячны за вашу дапамогу.

Я хірург Дубровенскай ЦРБ Кірычэнка Ю.Д.

Мой ліст адрасаваны шырокаму колу чытачоў, а не толькі маім калегам-медыкам, таму прафесійнай лексікі тут мінімальна, каб было зразумела.

У панядзелак (28.07.14) звярнуўся да мяне на прыём а 14.00 дня Стась у суправаджэнні яго цёткі. Дзіця скардзілася на боль у вобласці кісці і левага перадплечча.

25.07.14 у пятніцу ён атрымаў траўму левай рукі, пералом прамянёвай і локцевай косці левага перадплечча са зрушэннем. Дапамога аказвалася ў траўматалагічным аддзяленні Аршанскай гарадской бальніцы. Зроблена супастаўленне касцявых адломкаў, накладзеная гіпсавая павязка-лангета пад наркозам. Дзіця было адпушчана дадому з рэкамендацыямі з'явіцца на прыём у панядзелак, каб зрабіць кантрольны здымак.

Я ўважліва выслухаў скаргі дзіцяці, агледзеў яго руку, адзначаўся ацёк скуры, боль у вобласці кісці і перадплечча. Колер скуравых пакроваў не быў зменены. Скура была навобмацак цёплай. Пульсацыя сасудаў вызначалася.

Але стан кісці мяне крыху насцярожыў: доўга захоўваўся боль і ацёк кісці. Тут перада мной стала два пытанні: аслабіць гіпсавую павязку, бо захоўваўся боль, ці не чапаць яе, бо гэта магло прывесці да зрушэння адломкаў. З улікам таго, што пульс на сасудах перадплечча вызначаўся, скура была бледна-ружовага колеру, рух пальцаў рукі быў захаваны, мной было вынесена рашэнне: лячэнне гіпсавай павязкай працягнуць. Боль і ацёк пасля траўмы могуць захоўвацца да 5 дзён, такое было ў мяне ў практыцы неаднаразова. Я прызначыў кантрольны здымак у той жа дзень, г.зн. у панядзелак. Касцяныя адломкі былі супастаўленыя добра. Рэкамендаваў дзіцяці ўзвышанае становішча канечнасці, прыём супрацьзапаленчых абязбольвальных сродкаў, пры пагаршэнні стану або пры захаванні болю паўторна з'явіцца да хірурга ў аўторак, на наступны дзень.

У аўторак а 14.10 Стась са сваёй цёткай з'явіліся на прыём. Скаргі былі ранейшыя, боль у руцэ не сціх, ацёк кісці захоўваўся, пульсацыя сасудаў вызначалася. Рука была ў такім жа стане, як і ў панядзелак.

З улікам захавання болю я вырашыў не баяцца зрушэння адломкаў і паслабіў гіпсавую павязку, пашырыў яе. Стась адзначыў, што боль у руцэ аслаб. Лячэнне паслабленай гіпсавай павязкай вырашана было працягнуць, рэкамендавана было з'явіцца на прыём пры захаванні або ўзмацненні болю ў любы час.

У сераду 30.07.14 у 14.30 Стась зайшоў са сваёй цёткай. Стась скардзіўся, што рука моцна зацякла, боль узмацніўся, пагаршэнне стану адзначыў з вечара 29.07.14, г.зн. з аўторка.

Была знятая гіпсавая лангета, кісць і перадплечча былі цёмнага колеру, ацяклі, халодныя навобмацак. Пульсацыя сасудаў адсутнічала. Пальцы не рухаліся. Стан расцэнены як гангрэна перадплечча ў выніку трамбозу артэрый. Дзіця адпраўлена было ў Аршанскую бальніцу і ў Віцебскую абласную бальніцу.

Я шмат разважаў над гэтым выпадкам, аналізаваў і асэнсоўваў яго, боль у душы вядома ж ёсць.

Я ў хірургіі 37 гадоў. Маю асцярогі, што я сутыкнуўся з вельмі рэдкай паталогіяй, што пацвердзілі працы вядомых медыкаў: М.В. Кузіна, А.М. Клічаўскага, П.Н. Фралова, Ю.З. Грошава, М.В. Звёздзінай...

Можна прывесці статыстыку: сіндром здушэння ад гіпсавай павязкі ў дзяцей не апісаны ў медыцынскай літаратуры. Вельмі рэдкая паталогія. 20% мае месца здушэнне рук, 80% — ног, але гэта пры аварыях, катастрофах, землятрусах, а не пасля накладання гіпсавых павязак. Статыстыкі пры накладанні гіпсавых павязак няма.

Абапіраючыся на апісаныя вышэй першакрыніцы, сіндром працяглага здушэння развіваецца такім чынам, што праз 6—15 гадзін здушэння тканак гіпсавай павязкай наступаюць незваротныя змены ў тканках, а менавіта ў цягліцах, клініка якіх бурна нарастае пасля зняцця гіпсавай павязкі: нарастае ацёк, здушваюцца сасуды, надыходзіць гангрэна, гэта і адбылося ў сітуацыі са Стасем. Да мяне пацыент упершыню звярнуўся праз 60 гадзін пасля накладання гіпсавай павязкі.

Пасля ўзнікнення вільготнай гангрэны, у адпаведнасці з медыцынскай літаратурай, можна было паспрабаваць выратаваць руку, выкарыстоўваючы штучную нырку, гемадыяліз, спецыфічныя адсарбенты. Лячэнне такіх хворых немагчыма ў ЦРБ. Таму дзіця было накіравана ў абласны цэнтр.

Дадзены выпадак заслугоўвае пільнай увагі. Тут усё ж быў збег абставінаў: гіпс наклалі ў пятніцу, а наперадзе было два выхадныя, калі былі б наперадзе працоўныя дні, усё было б, магчыма, зусім інакш.

Паважаныя чытачы, давайце ўсе ўвойдзем у гэтую сітуацыю, бо дадзены выпадак паўплываў на лёс юнага чалавека!

Давайце кіравацца справядлівасцю і толькі так мы зробім нашу медыцыну яшчэ лепшай, а не прынцыпам: «Хто апошні, таго і тапкі»!

Я не спрабую схавацца, уцячы, адмахнуцца! Я хачу справядлівасці! Але чужую памылку на сябе я браць не буду!

Прашу маіх калегаў: хірургаў, траўматолагаў — выказаць сваё меркаванне з нагоды дадзенага выпадку і дадзенай паталогіі: сіндрому працяглага здушэння. Загадзя дзякую! Дасылайце свае адказы на электронную скрыню.

**kiri4encko.iurij@yandex.ru**
**Кірычэнка Ю.Д.**

* * *

Пра гэты выпадак стала вядома з паведамлення Следчага камітэта, які распачаў крымінальную справу «па факце неналежнага выканання прафесійных абавязкаў медыцынскімі работнікамі».

У жніўні ва Упраўленне следчага камітэта па Віцебскай вобласці паступіла заява жыхаркі Дубровенскага раёна. Жанчына паведаміла пра тое, што ў выніку лячэння пералому рукі ў сына ва ўстановах аховы здароўя раёна і вобласці руку падлетку ампутавалі.

Па гэтым факце аддзелам Следчага камітэта Дубровенскага раёна была пачата праверка, канфіскавана медыцынская дакументацыя, апытаны персанал устаноў аховы здароўя, у якіх падлетак праходзіў лячэнне, вывучаны довады заяўніка, праведзеныя судова-медыцынскія экспертызы.

Па выніках было прынята рашэнне аб завядзенні крымінальнай справы па ч.1 арт.162 (неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медыцынскім работнікам) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

# Чаму мяне абавязваюць выпісваць «Настаўніцкую газету»?

Я настаўнік. Працую ў школе чацвёрты год. Мяне абавязваюць выпісаць «Настаўніцкую газету» на паўгода і прынесці квітанцыю аб выпісцы адказнаму выканаўцу ў школе альбо здаць грошы. Сума сціплая — 300 тыс. рублёў. На пытанне «чаму я абавязаны» у каторы раз атрымліваю невыразны адказ. Самы часты — што я абавязаны знаёміцца з метадычнай літаратурай, выплаты на якую адбываюцца кожны месяц. Але ці з'яўляецца газета метадычнай літаратурай? Дарэчы, за 6 працоўных месяцаў сума гэтых даплат менш за 300 тыс. рублёў.

Наступны аргумент — здаюць усе, і я абавязаны здаць як усе. Тут цікавей. Здаваць грошы на добраахвотную падпіску. І калі я не здам, то суму прыйдзецца падзяліць на астатніх членаў майго метадычнага аб'яднання. І чаму нехта павінен плаціць, а я не?

Іншы варыянт — выкананне пастановы аддзела адукацыі, які даводзіць план, у якім сказана, колькі і якіх падпісак школа абавязана правесці і даць справаздачу. У іншым выпадку праца школы будзе лічыцца нездавальняючай. Што, вядома, не абяцае адміністрацыі нічога добрага.

Перад мінулым «перыядам» падпіскі ў мяне адбылася цікавая размова з дырэктарам школы. Дырэктар прасіла грошы здаць і «не парушаць выканальніцкую дысцыпліну». Мы ж работнікі дзяржаўнай арганізацыі і выконваем дзяржзамову. А паказаную суму мне абавязкова пакрыюць у наступных заробках з прэміяльнага фонду, як і ўсім іншым настаўнікам. Ці з'яўляецца гэта мэтавай задачай гэтага фонду? На гэта ён павінен быць накіраваны? Адказ тут таксама не патрабуецца.

З кім ні размаўляў на гэтую тэму, усе ў адзін голас адказваюць: «гэта не правільна, але зрабіць нічога не можам». Такія патрабаванні. Тут я нават спачуваю адміністрацыі.



УВАЖАЕМЫЕ ПЕДАГОГИ !

Началась индивидуальная подписка на газеты и журналы на первое полугодие 2015 г.

Убедительная просьба сдать деньги на подписку в размере **140000 рублей** до **8 декабря**.

**Деньги сдавать в библиотеку.**

*О приходе почтальона будет сообщено позднее.*

З матэрыяламі «Настаўніцкай» я знаёмлюся на сайце газеты. Часам матэрыял там сустракаецца вельмі цікавы і карысны. Але агульнае напаўненне газеты не выклікае ў мяне жадання пайсці на пошту.

У такім выпадку, як працаваць рэдакцыі, калі газету перастануць прымусова прымушаць выпісваць? Як зменіцца наклад «Настаўніцкай», «Юнага пажарнага», «Юнацтва» і іншых выданняў, назвы якіх знаходзяцца ў тым самым спісе?

Дык чаму мяне абавязваюць у прымусовым парадку падпісвацца? Выдаткаваў не адну гадзіну, спрабуючы знайсці адказ на сайтах газеты, Міністэрства. Але ў разважаннях тых, хто ставіў дадзенае пытанне і ў каментарах праскоквае толькі адна думка — прамое парушэнне працоўнай дамовы і заканадаўства.

**(Кантакт у Рэдакцыі)**

# Слізкія шляхі зімовай гумы

На працягу шэрагу апошніх гадоў у Беларусі вяліся размовы аб абавязковым пераходзе легкавых аўто на зімовую гуму. Зараз справа дайшла да ўвядзення закона.

Па маім глыбокім перакананні, ад выкарыстання зімовых шын будзе больш шкоды, чым карысці. У мяне вадзіцельскі стаж больш за 30 гадоў. І магу сказаць, што справа не ў гуме, а ў кіроўцу. Як у часы СССР, з яе вялізнымі абшарымі, гарамі і нізінамі, з цяжкімі кліматычнымі ўмовамі, абыходзіліся без зімовай гумы, розуму не прыкладу. І, з майго досведу кіроўцы, у Беларусі за ўсю зіму набіраецца максімум 1,5—2 тыдні, калі кіраванне патрабуе большай увагі і сабранасці. Выходзіць, што пераход на зімовую гуму прыходзіцца рабіць усяго з-за двух тыдняў.

Не ведаю, можа, пераход трэба для маладых «лётчыкаў». Не раз даводзілася назіраць, як у галалёдзіцу ўсе едуць павольна і асцярожна, але з'яўляецца джыгіт, які нясецца на злом галавы. Адразу з'яўляецца думка, што гэты паставіў першы раз зімовую гуму і лічыць, што ён узяў Бога за бараду. Вось у гэтым і ёсць шкоднасць зімовай гумы: многія лічаць яе ўстаноўку панацэяй ад праблем на дарозе.



Я не веру ў зімовую гуму і паспрабую растлумачыць чаму.

1) Законы фізікі ніхто не адмяняў, і пры слізгаценні гумы па лёдзе малюнак пратэктара не мае значэння. Каэфіцыент трэння гума-лёд абыйсці немагчыма. Любы малюнак пратэктара можа маментальна забіцца снегам. І якія сілы могуць перашкодзіць слізгаценню?

2) Вытворцы шын кажуць, што для зімы прымяняюцца іншыя матэрыялы з іншай цвёрдасцю. Тут ідзе гаворка аб форме і плошчы плямы счаплення шыны і дарожнай паверхні, але яна моцна залежыць ад ціску ў шыне. А як часта зімой вы кантралюеце ціск у коле? Акрамя таго, калянасць матэрыялу шыны (гумы) вельмі залежыць ад тэмпературы на вуліцы, гума распрацавана пад пэўныя адмоўныя тэмпературы. У нас што, усю зіму адна тэмпература паветра? Яна можа мяняцца на працягу сутак ад — да + і што дасць гэты адмысловы матэрыял.

Зараз пайшлі казкі пра «ліпучкі», якія прыліпаюць да лёду. Можа і прыліпаюць у ідэальных лабараторных умовах, а як быць у рэальнасці, калі ў нас снежны пыл на лёдзе або тонкі пласт вады.

Магчыма, гэты эфект і праяўляецца ў рэальных умовах, але ён нязначны. Ну будзе ў вас тармазны шлях на зімовай гуме 40 м, а на ўсесезоннай — 41,5 м. Якое гэта мае значэнне для вас, калі наогул лепш не тармазіць?

3) Першыя зімовыя шыны былі распрацаваны ў ЗША. Кліматычныя ўмовы ЗША вельмі адрозніваюцца ад нашых, і іх самы паўночны з вялікіх гарадоў Сіэтл знаходзіцца на шыраце Харкава, што ў нас ужо поўднем завецца. Чаму вытворцы шын так заклапаціліся зімовымі шынамі, калі ў іх такія камфортныя ўмовы? Падвойны аб'ём вытворчасці. Такая багатая краіна, як Амерыка, можа дазволіць сабе шмат празмернасцяў, без якіх можна пражыць. Яны могуць лёгка памяняць гуму два разы на год, пры тым пакідаючы старую ў сэрвісе на ўтылізацыю. Ім не трэба цягаць гуму на балкон на восьмым паверсе, каб праз 3—4 месяцы цягнуць яе назад.

4) Яшчэ адным момантам недаказанасці з'яўляецца перавод аўтобусаў, грузавікоў і іншага службовага транспарту. Бо з пункту гледжання бяспекі мэтазгодней спачатку перавесці на зімовую гуму, калі яна такая эфектыўная, гарадскія аўтобусы, у якіх перавозяць велічэзная колькасць людзей. Фура вагой у дзясяткі тон, якую панясе на галалёдзе, — гэта нашмат больш небяспечны аб'ект, чым які-небудзь легкавік. Вось з аўтобусаў і фур і трэба пачынаць. Паглядзець статыстыку пасля некалькіх гадоў эксплуатацыі, а затым ужо па яе выніках ўводзіць ці не ўводзіць абавязковы пераход на зімовую гуму астатняга транспарту. Аднак, ужо цяпер відавочна, што выдаткі на гэтае мерапрыемства апынуцца ў разы большым, чым эфект, атрыманы пры гэтым.

5) штучныя мерапрыемствы па пераходзе да «абавязковай» зімовай гумы складаныя і нявызначаныя. З якога месяца, даты пераходзіць на зімовую гуму і з якога часу яе адмяняць? Бо гэтыя 1,5—2 тыдні складаных умоў надвор'я могуць быць як ранняй восенню, так і позняй вясной. Сілавым рашэннем уведзены тэрмін ад 1 снежня да 1 красавіка, але хто гарантуе, напрыклад, што менавіта сёлета ў студзені асфальт не будзе чыстым і прыйдзецца ездзіць «летам» на зімовай гуме.

Я ўпэўнены, што ў справе выкарыстання зімовай гумы варта заставацца на ранейшых пазіцыях і пакінуць гэта на добраахвотнае волевыяўленне грамадзян.

**В.У. Шчарбак, Лепель**

У Чарнобыльскай зоне **затрымалі чыноўнікаў-браканьераў.**

# Новая «паляўнічая справа»



У выхадны дзень 7 снежня яны ў чарговы раз выбраліся на промысел у Чарнобыльскую зону. Паспелі нават удала пастраляць — забілі чатырох ласёў. Але тут іх з трафеямі і накрыў КДБ. Кампанія мусіла займацца адстрэлам дзікоў у межах барацьбы з афрыканскай чумой свіней. Але пераключыліся на іншае.

Як пачалі разбірацца, выявілася, што да браканьерства маюць дачыненне тыя, хто мусіць з ім змагацца. Затрымалі двух супрацоўнікаў Гомельскай абласной і міжраённай інспекцый па ахове жывёльнага і расліннага свету, егераў, міліцыянтаў, супрацоўніка Веткаўскага спецлясгаса. Усяго па справе праходзіць 11 чалавек.

Па Чарнобыльскай зоне браканьеры рассякалі на цюнінгаваным УАЗе. Замест нумара — шыльда з імем «Серёга». Асноўныя фігуранты па справе — бацька і сын. Бацька — егер Гомельскага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, сын — намеснік начальніка міжраённай Гомельскай інспекцыі прыродаахоўы. А ў кампаньёнах быў расіянін — мяжа ж побач.

Падчас ператрусу ў затрыманых знайшлі 8 паляўнічых стрэльбаў, 4 карабіны і некалькі соцень патронаў. А разынкай арсенала былі «яжы» — звараныя кавалкі арматуры, якія раскідаліся за машынай. Каб пры пераследзе браканьераў на іх прабівалі колы машыны міліцыі, леснікоў.

Мяркуецца, што група сістэматычна палявала на ласёў, дзікоў, касуль. А для промыслу абіралі Чарнобыльскую зону ў Веткаўскім раёне, дзе няма людзей, а звяры непалоханыя: на іх працей выйсці. Паляванне ў Чарнобыльскай зоне забаронена, і знаходзіцца там можна толькі па спецпрапусках.

Кожнага падстрэленага лася следчыя ацанілі ў 135 мільёнаў рублёў. Усіх — каля 50 тысяч даляраў. Забава для багатых.

Лось — самая вялікая жывёла ў Беларусі. Яго маса дасягае паўтоны. Цэны ў паляўнічых гаспадарках на лася складаюць ад 200 еўра за бязрогае ласяня, што нарадзілася ў гэтым годзе, да 30 000 еўра за самца з вялізнымі рагамі.

Гомельскую абласную інспекцыю па ахове жывёльнага і расліннага свету сёлета ўжо крытыкавалі за недахопы ў працы. За хібы звольнілі начальніка інспекцыі, толькі 1 снежня прызначылі новага кіраўніка. І вось новы «паляўнічы скандал». За справу з браканьерамі ўжо пазбыўся пасады намеснік начальніка Гомельскай абласной інспекцыі, панізілі начальніка Гомельскай міжраённай інспекцыі. Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнулі начальніка Кармянскай міжраённай інспекцыі. З крымінальнай адказнасцю ж вызначыцца суд.

**Кастусь Матушычар**

# Як былы міністр сельскай гаспадаркі за 15 тысяч даляраў адмазваў сына ад турмы

**Скандальная справа** разглядаецца ў Вярхоўным судзе Беларусі.

Ад 2 снежня ў Вярхоўным судзе Беларусі працягваецца працэс па справе аб атрыманні хабару былым намеснікам старшыні Беларускага вайсковага суда Юрыем Тузавым (па ч. 3 арт. 430 КК). Старшынюе на працэсе Аляксей Цяцюхін.

Яшчэ адзін фігурант крымінальнай справы — начальнік аддзела продажаў замежнага прадпрыемства «Інка-фуд» па Гродзенскай вобласці Сяргей Шымчук. Ён абвінавачваецца ў спрыянні ў дачы хабару (ч. 6 арт. 16, ч. 2 арт. 431 КК).

Інкрымінаваныя абвінавачаным падзеі мелі месца вясной 2013 года.

Тузаў знаходзіцца пад вартай і, адпаведна, у зале суда — у клетцы. Ён быў затрыманы 18 чэрвеня. Шымчука затрымалі 13 чэрвеня. Спачатку ў дачыненні да яго была абраная мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту, затым яго вызвалілі пад заклад.

Па версіі следства, Тузаў, быўшы намеснікам старшыні Беларускага вайсковага суда, ініцыяваў і падтрымаў перагляд і адмену прысуду суда першай інстанцыі ў дачыненні да Аляксандра Дваранiновiча — сына Васіля Дваранiновiча, былога міністра сельскай гаспадаркі і харчавання, члена савета рэспублікі, дэпутата палаты прадстаўнікоў. Дваранiновiча-малодшага за карупцыйныя злачынствы Брэсцкі міжгарнізонны вайсковы суд асудзіў да пяці гадоў пазбаўлення волі, канфіскацыі ўсёй маёмасці і штрафу ў 100 базавых велічынь. Ён праходзіў па справе, у якой адным з абвінавачаных быў супрацоўнік органаў памежнай службы, таму і суд быў вайсковы.

З прапановай дапамагчы змякчыць асуджанаму пакаранне або вызваліць яго ад пакарання да Тузава і звярнуўся Шымчук ад імя бацькоў асуджанага. З асуджаным Шымчук сябраваў яшчэ з часоў вучобы ў Гродзенскім дзяржаўным аграрным універсітэце, быў знаёмы па працы з ягоным бацькам. А з Тузавым, у сваю чаргу, Шымчук вучыўся разам на юрфаку БДУ.

За свае паслугі Тузаў, як гаворыцца ў абвінавачванні, запатрабаваў спачатку 15 тыс. даляраў, а затым яшчэ 5 тыс. Гэтыя грошы (15 тысяч) вайсковы суддзя атрымаў 24 красавіка 2013 года пры сустрэчы са сваім памагатым у адной з вёсак Валожынскага раёна.

Палкоўнік юстыцыі ў адстаўцы Юрый Тузаў заявіў на працэсе, што не прызнае сябе вінаватым у інкрымінаваным яму атрыманні хабару.

Сяргей жа Шымчук сваю віну прызнаў цалкам.

У судзе Шымчук расказаў, што неўзабаве пасля выхаду Аляксандра Дваранiновiча на свабоду следства зноў ім зацікавілася, гаворка пайшла аб магчымым завядзенні новай крымінальнай справы. Экс-міністр, Дваранiновiч-старэйшы, стаў выстаўляць прэтэнзіі пасярэдніку і суддзі, патрабаваў, каб намарна заплачаныя грошы былі вернутыя.

Цікавая дэталька: са словаў Шымчука, калі Дваранiновiч-сын ізноў аказаўся ў небяспецы, Дваранiновiч-старэйшы палічыў сябе ашуканым і гаварыў, што мае намер звярнуцца да прэзідэнта.

У гэтай сітуацыі, сказаў Шымчук, ён параіў Дваранiновiчу звярнуцца да старшыні Беларускага вайсковага суда (што Дваранiновiч потым і зрабіў), генеральнага пракурора і папярэдзіў, што сам былы чыноўнік можа панесці крымінальную адказнасць як давальнік хабару.

У выніку ўжо пасля гэтага Шымчуку стала вядома, што Тузаў вярнуў 15 тысяч даляраў Дваранiновiчу назад.

Як гаворыцца ў абвінавачвальным заключэнні, змякчальных абставінаў датычна Тузава няма. Наадварот: злачынства было здзейснена з карыслівай зацікаўленасці.

Што тычыцца Шымчука, то тут абцяжарваючых абставін не выяўлена, змякчальныя — садзейнічанне следству і малалетняе дзіця на ўтрыманні. Таму ён і не ў клетцы.

Узнятую абаронай Тузава тэму, чаму сведка, даведаўшыся пра злачынства, не паведаміў пра яго ў праваахоўныя органы, суд развіць не даў.

Дарэчы, тую другую порцыю грошай, 5 тыс. даляраў, Шымчук на стадыі папярэдняга следства перавёў у беларускія рублі і пералічыў на рахунак Следчага камітэта.

**Паводле БелаПАН**

# Дзяўчынкі радзей за хлопчыкаў ідуць на суіцыд

**Следчы камітэт прааналізаваў выпадкі** самагубстваў сярод непаўналетніх у 2014.

Завяршылася праверка па факце смерці 16-гадовага хлопца з Рэчыцы. Старшакласніка знайшлі нежывым у царкве грамады Сведкаў Еговы летам. У запісцы ён паведаміў, што вырашыў скончыць жыццё самагубствам, бо рабіў непрыстойныя ўчынкі. Следчыя высветлілі, што ўся справа ў пачуццях да дзяўчыны з царквы. Паміж імі неадназарова ўзнікалі канфлікты, у тым ліку на глебе рэўнасці хлопца.

За 11 месяцаў 2014 года гэта ўжо 33-і выпадак, калі непаўналетнія пазбавілі сябе жыцця. Такую статыстыку прывёў Следчы камітэт.

Найбольш выпадкаў самагубства зарэгістравана ў Мінску (7), найменш — у Гродзенскай вобласці (2). На Брэстчыне — 3, Віцебшчыне, Міншчыне, Магілёўшчыне — па 5, Гомельшчыне — 6. Сярод ахвяр — 21 хлопчык і 12 дзяўчынак.

«Часцей суіцыды здзяйсняюцца падлеткамі ў веку 16—17 гадоў. Матывы суіцыдаў, якія былі высветленыя падчас праверак: непадзеленае каханне; сямейныя канфлікты; згасанне цікавасці да жыцця на фоне псіхічнага расстройства, ужыванне алкаголю, наркотыкаў», — адзначыла прадстаўнік СК Юлія Ганчарова.

Але канкрэтная звада з'яўляецца зачэпкай, а не паўнавартаснай прычынай. Шукаць яе трэба глыбей.

Ахвяры працяглы час знаходзіліся ў дэпрэсіі, канфлікт напярэдадні смерці правакаваў дзеянні падлеткаў па прынцыпе спускавога кручка. Акрамя гэтага, варта адзначыць адсутнасць належных эмацыйных блізкіх, даверлівых адносін паміж бацькамі і дзецьмі.

«Нярэдка ў бацькоў і блізкіх не знаходзіцца адэкватнай рэакцыі нават на заявы дзяцей пра жаданне пакончыць з сабой. Страціўшы надзею прыцягнуць увагу да сваіх праблем, падлеткі пішуць перадсмяротныя запіскі, пакідаюць паведамленні ў сацыяльных сетках, пасля чаго і зводзяць рахункі з жыццём», — кажа Ганчарова.

Згодна з матэрыяламі праверкі, 12-гадовая дзяўчынка з Мінска перапісвалася ў інтэрнэце са знаёмым на тэму смерці і перараджэння. І разам абмеркавалі дату магчымага суіцыду. У выніку яна выкінулася з балкона. А ў школьных сшытках дзяўчынкі следчыя знайшлі шэраг запісаў, у якіх яна разважала пра суіцыд.




**Колькасць суіцыдаў сярод непаўналетніх у 2014 годзе (на 1 снежня).**

Па словах Юліі Ганчаровай, аналіз паказаў, што ў большасці выпадкаў трагедыі можна было папярэдзіць. І адзначае, што важна звяртаць увагу на тое, што дзеці пішуць у сацыяльных сетках.

**Сяргей Макарэвіч**

**Кругласутачная служба экстраннай псіхалагічнай дапамогі**

«Тэлефон даверу»: 8 (017) 202-04-01. Рэспубліканская тэлефонная «гарачая лінія» па аказанні псіхалагічнай дапамогі непаўналетнім, што трапілі ў крызісную сітуацыю: 8-801-100-16-11

## Сціслa

### Махляр ашукаў 100 чалавек

20-гадовы маладзечанец ад лістапада 2013 да красавіка 2014 прасіў у знаёмых набываць для сябе ў растэрміноўку мабільнікі. Адным абяцаў сам плаціць растэрміноўку, іншым — выдаліць інфармацыю аб даўжніках з базы прадаўца. Тэлефоны хлопец адразу перапрадаваў, а плацяжы не рабіў. Ашукаў 104 чалавекі. Шкоду ацанілі ў 635 мільёнаў, палову сумы хлопец кампенсаваў.

### Рабаўнікі разулі

Уначы нецвярозы 31-гадовы магілёвец вяртаўся дамоў. У завулку яго ўдарылі па галаве. Ён паваліўся і зрабіў выгляд, што страціў прытомнасць. Двое нападнікаў разулі ахвяру, знялі з яго кажух, забралі планшэт і банкаўскую картку. У міліцыю ён прыйшоў у шкарпэтках. На месца здарэння выехаў нарад. Сабака ўзяў след, і праз паўгадзіны рабаўнікоў затрымалі. Гэта мужчыны 42 і 30 гадоў, раней судзімыя.

### Дзіўная аварыя

На праспекце Кляцкова ў Гродне легкавік задняй часткай стукнуўся ў апору пешаходнага моста. Удар быў такой сілы, што ў салон аўто літаральна уціснуліся і багажнік, і заднія колы. Маладога кіроўцу шпіталізавалі.

**КМ**



# Рома Свечнікаў па выніках кругасветнага падарожжа зразумеў

## 1) як добра жыве Беларусь, 2) што мужчыны палігамныя і 3) што баіцца звар'яцець

1 ліпеня 2012 года 20-гадовы беларускі хлопец Рома Свечнікаў кінуў вучобу ва ўніверсітэце, развітаўся з сям'ёй, сябрамі і ўтульным пакоем у мінскім чатырохпавярховіку ды выправіўся ў бестэрміновае кругасветнае падарожжа, якое скончылася ў мінулым месяцы.



Манголія.






Падчас свайго падарожжа Рома разам з камандай моладзевага часопіса 34mag.net стварылі рубрыку, у якой хлопец распавядаў пра свае прыгоды. Хлопец стаў для свайго кола героем, а рубрыка з цягам часу ператварылася ў паўнавартасную кнігу.

Рома аб'ехаў 25 краін свету, сярод якіх Іран, Азербайджан, Кітай і Лаос, і адолеў каля 100 тысяч кіламетраў. Мы распыталі яго пра тое, як кругасветка змяняе чалавека і ў чым прымушае расчаравацца.

**«Наша Ніва»: Першае пытанне, якое часта чую: ці сапраўды ты вандраваў без грошай?**

**Рома Свечнікаў:** Так, калі я выязджаў, то ў мяне было з сабой на картцы пару баксаў. Падчас вандроўкі мне даводзілася займацца не самымі салодкімі справамі, каб атрымаць грошы. Нават здаралася, што краў ежу і не плаціў па рахунках у кавярнях. Не буду хаваць, што мае сябры і тыя, хто сачыў за маімі прыгодамі, перыядычна перасылалі мне грошы. Без іх было б складана.

**«НН»: Ты ўжо больш за месяц у Мінску. Чым займаешся?**

**РС:** Я хаджу паміж людзьмі, знаёмымі, сустракаюся з журналістамі, але пры гэтым знаходжуся ў прастрацыі.

**«НН»: Наколькі цяжка ідзе адаптацыя да спакойнага, «канапнага» ладу жыцця?**

**РС:** Я не магу сказаць, што мне ўтульна і спакойна. У мяне нервы не на месцы, мала сплю, часам правальваюся ў сябе і не разумею, што са мной на дадзены момант адбываецца. Карацей, стан так сабе, хоць, падаецца, што тут можа замінаць?



Дагестан.




**«НН»: Ты памятаеш першую рэакцыю матулі, калі яна цябе пабачыла пасля вяртання?**

**РС:** Вядома, такое не забудзеш. Яна расплакалася і села на тумбу. Пасля паўгадзіны не магла і слова сказаць, падавала толькі талеркі з ежай.

### Няма нічога больш істотнага за чыстую ваду і дах над галавой

**«НН»: Ссумаваўся па нашай родненькай ежы?**

**РС:** Наша ежа самая цудоўная, і я сапраўды ў гэтым упэўніўся. Ва ўсім свеце, за рэдкім выключэннем, ежа горшая па складзе і якасці. У нас самая цудоўная выпечка! Наша ежа, можа быць, без нейкіх там вынаходніцтваў, затое сапраўдная і ад душы.

**«НН»: А што ўжываюць у штодзённым рацыёне, напрыклад, тыя ж аргенцінцы?**

**РС:** Яны любяць мяса. Звычайна гэта стэйк з каровы, памерам з дупу, салата, ну і віно. Але ж гэта ўсё роўна неяк не так смачна.

**«НН»: Можна пазайздросціць — мяса!**

**РС:** Калі адкінуць Еўропу ды ЗША, увесь свет жыве прыкладна гэтак жа, як і мы. Вось зараз мы з табой п'ём каву за паўтара даляра, а ў Балівіі, дзе са сцяны звісала б цвіль, мы пілі б значна горшую каву з пластмасавага кубка за тры даляры. Калі шчыра, з цэнамі ў нас усё добра. І больш скажу: заробкі ў нас таксама нармальныя, што б тут ні казалі.

**«НН»: А ўсё ж такі, чым яшчэ мы адметныя?**

**РС:** Без жартаў, але сапраўды ў нас вельмі чыста. Тут можна лізаць тратуар. Мы, пэўна, гэта недаацэньваем, але ў нас можна піць ваду з крана! І я не піў лепшай вады ўжо год. Падаецца, драбяза, але мы не звяртаем на гэта ніякай увагі. Я, як чалавек «кустоў», магу сказаць дакладна, што няма нічога больш істотнага за чыстую ваду і дах над галавой. Калі вы маеце хоць нейкую працу, гэта ўжо тое, за што варта трымацца. Хаця нам усім хочацца чамусьці ад гэтага з'ехаць.

**«НН»: Усё спазнаецца ў параўнанні.**

**РС:** Менавіта. Мая апошняя частка падарожжа прайшла праз Цэнтральную і Паўднёвую Амерыку. І я скажу шчыра, што нам варта падцерці соплі, якія мы тут пусцілі, і проста падымаць сваю краіну. Плакаць тут няма чаго, тут усё крута.

**«НН»: У сваёй кнізе ты пісаў: «У Іране заблакаваная большасць сайтаў, нават «Наша Ніва» не адкрываецца. Думаю, не варта тлумачыць пра «Укантакце», «Фэйсбук», «Твітар» і «Ютуб». Пры спробе злучэння з забароненым сайтам ты аўтаматычна перанакіроўваешся на старонку з рэлігійным кантэнтам. Цікава, якая ў яе наведвальнасць?» Я вось да чаго. З гэтага аповеду вынікае, што ты імкнуўся сачыць за тым, што адбываецца ў Беларусі?**

**РС:** У залежнасці ад сітуацыі. У некаторых краінах, калі ўсё было добра, я з асалодай чытаў нашыя навіны. А былі моманты, калі было так кепска, што там было не да Беларусі.

**«НН»: Рома, скажы, ты адчуваеш, што пасталеў падчас вандроўкі?**

**РС:** А як гэта вызначаецца, па якіх крытэрах? Фізічна — безумоўна. Я вось кепска хаджу цяпер, кожны крок аддаецца болем у спіне, бо ўвесь час цягаў цяжкі заплечнік. Я згубіў пару зубоў і, магчыма, пару гадоў жыцця. Але ці пасталеў я ўнутрана — не ведаю. Я не памятаю, хто з'язджаў адсюль. Магчыма, я пасталеў, але тое вогнішча, якое было ўнутры перад выездам, пачало гарэць яшчэ мацней.

### Я пражыў тысячы жыццяў

**«НН»: Ты казаў у іншых сваіх інтэрв'ю, што пераасэнсаваў многія агульнапрынятыя каштоўнасці. А ці паўплывала ўсё тое, што ты бачыў вакол, на ўспрыманне такіх каштоўнасцяў, як сям'я і каханне?**

**РС:** Канечне, я пісаў пра гэта. Я не хачу верыць у гэтыя каштоўнасці. Я прымаю іх і прымаю гэта ў галовах людзей, бо гэта цуд. Але я не магу стаяць на гэтых рэчах, я расчараваўся ў іх.

**«НН»: Дык а што тады галоўнае?**



Нью-Ёрк.

**Былі выпадкі, калі мытнікі на мяжы сумняваліся, ці існуе Беларусь**

**РС:** Ды проста людзі. Вось менавіта той момант, калі ты сустракаеш вартага чалавека, ад якога дух займае. Гэта можа быць звычайны жабрак, але ты паглядзіш у ягоныя вочы і проста адчуеш у іх увесь космас. Няма месца, дзе нам было б аднолькава добра, паўсюль насамрэч кепска, але ёсць людзі, якія апраўдваюць нашае жыццё.

**«НН»: Ты сустракаў больш кепскіх людзей ці добрых?**

**РС:** Ды што за падзел? Кепскіх людзей няма, ёсць проста іншыя. Ёсць людзі, блізкія ў чымсьці, а ёсць проста далёкія для мяне як асобы. Вось і ўсё. Нейкія трансгендары ці баевікі будуць мне часам бліжэйшыя, чым сусед па пляцоўцы. Памылкова ляпіць на ўсё вызначаныя цэтлікі. Мы ўсе памыляемся, супакойся. Мне хочацца, каб нам усім тут было добра.

**«НН»: Скажы, ці знайшоў ты тое, што шукаў падчас сваіх прыгод? Проста калі так, то гэта ўсё апраўдана, калі ж не, то для чаго ты бег ад усяго? Каб у выніку вярнуцца ў пункт адліку?**

**РС:** Я зайздрошчу тым людзям, якія ведаюць, што робяць і дзеля чаго. Магчыма, ты пераацэньваеш маю місію. Я не ведаю, што я рабіў. Шмат хто лічыць, што за гэтым стаіць нейкая глабальная ідэя сусветнага падарожжа, але яе проста не было. Гэта пустое і гэта неістотна.

**«НН»: А што тады істотна?**

**РС:** Гэта быў своеасаблівы выхад у космас. Калі я думаю пра сябе, мне падаецца, што я проста нейкі пакет, які ляціць над акіянам і не можа нічога вырашаць, ён проста ляціць.

**«НН»: Табе падабаецца гэты стан?**

**РС:** Я пражыў тысячу жыццяў. Я быў усімі адначасова. Я бачыў вельмі кепскіх людзей, пра якіх я казаў, я бачыў сотні, тысячы, мільёны. І я быў імі. Гэта ўменне, якое немагчыма атрымаць, калі знаходзішся тут. Бо тут ты жывеш толькі сваё жыццё.

**«НН»: Камфорт і грамадства перашкаджаюць нам зразумець жыццё?**

**РС:** Людзей ад нараджэння ставяць на пэўныя рэйкі, у межах якіх і па якіх яны мусяць рухацца далей. Нам адразу кажуць, кім мы павінны быць. А калі ты адсякаеш усе гэтыя кропкі залежнасці, ты становішся свабодным ва ўсім. І зараз я магу быць любым жывым. Я не маю больш звыклых для ўсіх каштоўнасцяў і адчування маралі. Я зразумею нават забойцу.

**«НН»: Мая сяброўка, калі даведалася пра тое, што я буду з табой гутарыць, назвала цябе сваім гуру.**

**РС:** Насамрэч, я б не хацеў прымяраць на сябе касцюм гуру ці нейкага чалавека, які можа павесці за сабой. У гэтым мала прыемнага. Самае прыемнае месца ў гэтым горадзе — «Чабурэчная», бо там мяне не пазнаюць.



Рома на Алясцы, у канцавым пункце падарожжа, перад вяртаннем у Беларусь.

## Не варта ісці маім шляхам. Кругасветка не для ўсіх

**«НН»: Ты пісаў у кнізе пра момант адчування сапраўднай свабоды: «Раптам я адчуваю такую пустэчу, цяжар і боль унутры. Адчуваю, што мы называем сапраўднай свабодай. Мы жывём гэтым ідэалам, гатовыя біцца за яго і спрачацца да пены на вуснах. А высвятляецца, што свабода — гэта край. Ад свабоды ты раптам губляеш сябе, і лепей, каб у гэты момант ты не ехаў на матацыкле». Няўжо яна такая невыносная?**

**РС:** Я ўжо пісаў, што Свабода — гэта ідэал для слабакоў. Гэта сапраўды так, бо насамрэч гэта страшна! Гэта тое, з-за чаго лічаць, што кругасветка не для ўсіх. Бо з гэтым не кожны можа справіцца. З сабой вельмі цяжка жыць.

**«НН»: Што менавіта страшна?**

**РС:** Гэта ўжо будзе метафізіка. Я проста баюся звар’яцець. Акрамя вар’яцтва ўжо больш нічога не страшна. Я трымаюся толькі за сваё жыццё. І я не кажу пра страх смерці, мяне хацелі і забіць, і я сам па дурасці ледзь на той свет не адправіўся, страшна згубіць сябе, свой уласны подых. Не варта, карацей, ісці маім шляхам.

Калі ты спасцігаеш самога сябе, праз тое, што амаль увесь час адзін і з табой пераважна толькі базавыя інстынкты, ты пачынаеш тануць у сабе. Я то ў адным свеце, то ў іншым. І я шчыра сумняюся ў існаванні ўсіх нас.

**«НН»: Тут усе чакалі споведзі пра сэнс жыцця і спазнанне жыццёвых ісцін, а ты кажаш, што нічога не мае сэнсу.**

**РС:** Дык так і ёсць. Калі прыдумаў сэнс — ён твой. А так ёсць проста жыццё і ўласны подых. Гэта і ёсць багацце.

**«НН»: Адыдзем ад метафізікі. Скажы, ты прывёз нешта для сябе з гэтай вандроўкі?**

**РС:** Падчас вандроўкі я ўвесь час сустракаў на вуліцах розных гарадоў карту «Джокер», вось пару штук, якія засталіся, я і прывёз. Не хачу мець рэчы нейкія пры сабе.

**«НН»: Разлічваеш на тое, што кудысьці паедзеш яшчэ?**

**РС:** Дык гэта неістотна, паглядзім, як складзецца. Ёсць пару прапаноў, але казаць пра іх пакуль не магу.

**«НН»: Для цябе ўвогуле ў чымсьці ёсць сэнс?**

**РС:** Я шукаю людзей. Вось і ўсё. Мне нецікавыя людзі, якія жывуць выключна паняццямі дабрыні і добрых учынкаў, я шукаю такіх, як я, хто паспеў ва ўсім гэтым расчаравацца. Я не ведаю, дзе я іх сустрэну, але калі здараецца, то адчуванне такое, нібы нашыя сэрцы пачынаюць займацца каханнем.

**«НН»: Пытанне ад дзяўчат. Ты сустрэў дзяўчыну, якую кахаеш?**

**РС:** Так, я шмат каго расчарую гэтым. Увогуле, я зараз скажу рэчы, якія могуць паставіць на мне крыж у вачах некаторых. Але я больш чым упэўнены ў тым, што людзі палігамныя, асабліва мужчыны. Я гляджу на людзей, як на звяроў. Грамадства так уладкавана, што мы ствараем манагамныя пары, але шмат каму ў гэтым некамфортна. І я не магу ісці супраць сваёй прыроды. Пра гэта прынята не размаўляць. Знайшоў — і жыві. Тое, што я знайшоў сваё каханне, не значыць, што мяне не цікавяць іншыя. Іншая справа, што мяне з маёй дзяўчынай трымае духоўная еднасць, якую не пераплюнеш.

## У свеце немагчыма памерці з голаду

**«НН»: У цябе была сітуацыя ў Азербайджане, калі тое, што ты апеляваў да міжнародных нормаў дыпламатыі, выратавала сітуацыю. «Міліцыянты сказалі, што мы не можам тут сядзець, бо побач дом прэзідэнта. Мы адмаўляемся сыходзіць. Яны яшчэ доўга палохаюць нас тым, што зараз прыедзе машына і павязе нас усіх у пастарунак, але я тлумачу ім, што паслы Беларусі, Ірана, Англіі ды Францыі будуць вельмі незадаволеныя. І Азербайджан застанецца без трактароў, газаправода ў Турцыю, нафтаздабываючых станцый, а Францыя таксама нешта прыдумае. Міліцыянты раптам змяняюць гнеў на ласку, просяць не карыстацца таблічкай і ў выпадку якіх-небудзь праблем звяртацца да іх па дапамогу. Я ім адразу кажу, што мы сёння не елі. Міліцыянты купляюць нам восем донэраў і па бутэлечцы колы». Ну вось і скажы, ці адчуваў ты сябе абароненым як грамадзянін Беларусі, за якім стаіць краіна?**

**РС:** Такога адчування не было. Я ведаў, што, калі я пачну качаць правы з беларускім пашпартам, мяне гэта не выратуе. Нашы амбасадары не будуць выцягваць цябе з-за кратаў і не купяць квіток дамоў, ну, калі добры амбасадар, то магчыма ў пазыку і набудзе. Нашай краіне проста не хапае людзей, якія трапілі ў кепскую сітуацыю. Нашы міжнародныя адносіны зусім не на належным узроўні, і спадзявацца на іх нельга.

**«НН»: Ці ведаюць Беларусь увогуле ў свеце?**

**РС:** Напрыклад, у Тайландзе — так, бо нашых баксёраў там паважаюць. А бокс для іх — святое. У Нікарагуа таксама ведаюць, там трактары нашыя ёсць. Але агулам пра нас амаль нідзе не ведаюць. Былі выпадкі, калі мытнікі на мяжы сумняваліся, ці існуе такая дзяржава. Я нават хацеў наклеіць мапу ў пашпарт, каб паказваць людзям, што мы ёсць.

**«НН»: Да чаго павінны быць падрыхтаваныя беларусы, якія, як і ты, збяруцца ў кругасветку?**

**РС:** Тут усё асабіста для кожнага. Хтосьці адзін раз у намёце пераночыць — і ўсё жыццё ўзгадваць будзе. А насамрэч усё будзе добра, ніхто вам нічым не абавязаны, але заўсёды знойдуцца тыя, хто дапаможа. Ну, я абнадзею яшчэ тым, што з голаду вы не адкінецеся дакладна. Беларусы ўвесь час ныюць, што грошай няма. Вельмі складана ў свеце памерці ад голаду, гэта немагчыма. Проста падыдзіце і папрасіце купіць хлеба. У чым праблема?

**«НН»: А што тычыцца збору заплечніка?**

**РС:** Я пералічу тэзісна. Самае галоўнае — гэта спальнік, на яго грошай не шкадуйце ніколі. Намёт увогуле браць неабавязкова, бо амаль заўсёды вы знойдзеце нейкі дах. Не забудзьцеся флікеры, іх шмат не бывае. Калі едзеце ў краіну, дзе холадна, абавязкова трэба набыць добрую тэрмабялізну. Звярніце ўвагу на абутак, усё іншае неістотна. У першую вандроўку не бярыце заплечнік, большы за 50 л. Дарэчы, узважце заплечнік, калі ён важыць больш за 10 кг — нікуды не едзьце. З цягам часу і вопытам ягоны памер будзе не большым за 7 кг. Ліхтарык вазьміце, нож. Мапы і компас браць не трэба — вы ў XXI стагоддзі.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

Кнігу «Рома едзе» можна набыць у кнігарні «ЛогвінаЎ».


Кітай.

# Унучкі Лукашэнкі перамаглі на конкурсе «Маладыя таленты Беларусі»



Фартэпіянны дуэт Дар'і і Настассі Лукашэнка перамог у конкурсе «Маладыя таленты Беларусі», арганізаваным Першым нацыянальным каналам Беларускага радыё.

Конкурс праводзіўся ад жніўня да снежня. На ўдзел было пададзена больш за 250 заявак ад маладых музыкантаў з розных куткоў Беларусі. Папярэдні адбор прайшлі 232 прэтэндэнты. Пераможцаў віншавалі 10 снежня ў Вялікай студыі Дома радыё.

Узнагароду ў намінацыі «Інструментальная музыка» дзяўчаты падзялілі са студэнтам Дзяржаўнага музычнага каледжа імя Глінкі Максімам Барбашам і вучаніцай гімназіі пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Палінай Скляровай.

Даша і Насця — дочкі сярэдняга сына беларускага кіраўніка Дзмітрыя Лукашэнкі — у творчых конкурсах удзельнічаюць не першы раз.

У 2013 годзе яны перамаглі ў дзіцячым літаратурным конкурсе — беларускамоўныя казкі Дар'і і Анастасіі занялі першае месца ў катэгорыі «Творчыя работы малодшых школьнікаў».

**news.tut.by**

**Фотафакт**




**Гродзенскія піянеры забыліся, як выглядае Беларусь? Фотаздымак зроблены ў гродзенскім Палацы творчасці дзяцей і моладзі, герб вісіць на трыбуне.**

# Як самому адключыць паслугу галасавой пошты на тэлефоне




КРЫЛТА ХІЛЬКО

Вы гэтага не ведаеце, але вы можаце марнаваць сямейныя грошы на галасавую пошту, нават калі ёй не карыстаецеся.

У абанентаў МТС і Velcom па змоўчанні апаратары падключылі паслугу «Галасавая пошта». Калі вам тэлефануюць, а вы не здымаеце, апаратар прапануе пакінуць паведамленне на галасавую пошту. А ў таго, хто пачуў аўтаадказнік галасавой пошты, грошы здымаюцца як за хвіліну размовы з вамі. Нават калі ён нічога не перадаваў!

Такога не трэба? Проста набярыце нумар ##002# і націсніце «Званок», калі вы абанент МТС, ці *441*1# і «Званок», калі вы абанент Velcom. Гэта адключыць галасавую пошту.

Абанентам Life:) аператар галасавую пошту не падключае.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Лянота дапамагае ляніўцу выжыць

Лянівец — гэта жывёла, што водзіцца ў Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыцы. Яна адносіцца да атраду **непаўназубых.**

Да гэтай групы таксама адносяцца такія цікавыя жывёлкі, як мурашкаеды і браняносцы.

Сваёй назве ляніўцы цалкам адпавядаюць. Большую частку дня яны безрухома праводзяць на дрэве. Нават спраўляць патрэбу ходзяць толькі раз на некалькі дзён. Дзеля гэтага лянівец спускаецца на зямлю, хоць гэта і вельмі небяспечна, бо кожны другі лянівец гіне падчас такіх выправаў ад зубоў ягуараў і іншых драпежнікаў.

Асноўным пунктам рацыёну ляніўцаў з'яўляецца лісце дрэваў, але ж гэтая ежа малакаларыйная. Ляніўцы рухаюцца так мала, што ў іх на поўсці вырастаюць грыбкі і водарасці. Фактычна цела ляніўца з'яўляецца цэлай экасістэмай, якая жыве ў сімбіёзе з матылькамі агнёўкамі і цыянабактэрыямі. І вось жыццё гэтай экасістэмы цалкам залежыць ад такіх вось вылазак ляніўца!

Дзеля чаго ж ляніўцы спускаюцца на зямлю, высветлілі навукоўцы з Універсітэта штата Вісконсін (ЗША). Аказваецца, што пэўныя віды матылькоў, што жывуць у поўсці ляніўца адкладаюць яйкі ў свежы памёт ляніўца. Затым лічынка ператвараецца ў матылька, падымаецца ў паветра ды селіцца ў поўсці ляніўца.

Здавалася б, а ў чым уласна выгада самога ляніўца? Аказваецца, гэтыя матылькі забяспечваюць цела ляніўца азотам, так неабходным для росту водарасцяў на целе. Калі ж лянівец чысціць сваю поўсць, то ўжывае ў ежу гэтыя водарасці, якія ўтрымліваюць мноства спажыўных ліпідаў. Гэта і дазваляе ляніўцам выжываць на скупой ліставой дыеце.

**Лявон Максюта**





**Камертон Сяргея Ваганава**

# «Ты забіты... Уставай!»

...«Ты забіты! Падай! Падай!»...

Амаль праз 70 гадоў на 19-й старонцы невялічкай кніжкі я чытаю: «Падай, дурак! Ты убит...»

Кніжка называецца «Полигон», жанр — «ост-мадэрнісцкая аповесць». Аўтар — Андрэй Лазуткін. Яму 21 год. Ён малады камуніст.

Дыскусія вакол аповесці адразу дасягнула такой гарачыні, у якой, здавалася б, яшчэ трохі — і згарыць аўтар разам са сваёй кніжкай ці кніжка разам са сваім аўтарам.

Карацей, твор быў абвешчаны **антыбеларускім**.

Згадалася кляймо «антысавецкі». І я, у значнай ступені выхаваны літаратурай з гэтым кляймом, выцягнуў кніжку Лазуткіна з вогнішча, якое распаліў нехта У.С. у рэцэнзіі са з'едлівай назвай «Палігон для цімураўцаў».

Выцягнуў і пачаў чытаць.

Павінен заўважыць, што я зусім не прафесійны чытач. З усялякімі там дызель-панкамі ці ост-мадэрнізмамі хай разбіраюцца прафесіяналы. Што праўда, прафесіяналам сёння лічыць сябе ці не кожны, хто адолеў буквар. Для мяне ж ва ўспрыманні літаратурных тэкстаў важнейшым за ўсё з'яўляецца пачуццё.

Ад пачатку аповесці мяне ахапіла пачуццё раздражнення. Што ён ведае, гэты нахабны маладзён, пра вайну, акупацыю, калабарацыю, падполле? Начытаўся кніжак, публіцыстыкі, мо сам удзельнічае ў гістарычна-палітычных бойках, вось і навыдумляў абы што... Тут і немцы — пераможцы ў Другой сусветнай вайне... І Цэнтральная Рада на чале з Астроўскім уладарыць пад немцамі... Альтэрнатыўная, бач ты, гісторыя. Але ж навошта Ракасоўскага з Тухачэўскім блытаць?.. Ды і герой нейкі няўцямны — то з партызанамі, то з падпольшчыкамі, то з бандзюкамі, а то і з ненавіснай яму калабарацыйнай уладай... А гэтыя перакіды ў сучаснасць, якую насяляюць нейкія пачвары ў абліччы ці то калгасных механізатараў, ці то выпадкова сустрэтых у еўрапейскай Польшчы бамжоў!..

Але вось што — нічога антыбеларускага не заўважыў. І з чаго так уз'еўся на Лазуткіна невядомы У.С.?! З таго, што на беларускай мове размаўляюць адмоўныя персанажы? Дык жа становучых персанажаў — у літаратуразнаўчых вымярэннях — у аповесці няма. Па логіцы У.С. усё якраз наадварот — «адмоўныя» героі спрэс размаўляюць па-руску. А мо з таго ўз'еўся, што беларуская ўлада пад пераможнымі немцамі ў аповесці такая агідная? Дык жа і партызаны агідныя, і паліцаі, і падпольшчыкі спрэс забойцы. Ды і Беларусі ў аповесці няма, ёсць Остландыя. Ці ва ўяўленні У.С. Беларусь пад нацыстамі — БЕЛАРУСЬ?

> **Так, гэта нешта недаробленае, камякаватае. Але ж трымаецца, не сыходзіць з галавы**

Не, не пагаджуся я з У.С., палічыў ягоныя абвінавачванні прыцягнутымі за вушы, а спробу ўцісцуць мастацкі твор у квазіпалітычнае пракрустава ложа — звычайным прымітывам. І загарнуў кніжку. Прачытаў — і прачытаў...

Дзень праходзіць, тыдзень... Што ж гэта ўтрымлівае аповесць у ва мне? Чаму не забываецца? Так, я разумею, што ў літаратуразнаўчым вымярэнні гэта сырэц, нешта недаробленае, камякаватае. Але вось жа трымаецца, не сыходзіць з галавы, нават нервуе...

І я зноў разгарнуў кніжку.

Мусіць, гэта прыкмета сапраўднага таленту, калі кніжка змушае вяртацца да сябе. І ты пачынаеш заўважаць, што да ўсіх першапачатковых уражванняў дадаецца ўчэпісты аўтарскі пагляд, спружыністы рух падзей, неназойлівая метафарыстыка... Але не гэта галоўнае з таго, што засталося не пачутым спярша.

Не пачутым засталося каханне і забойства.

Забойства кахання.

«Падай, дурак! Ты убит...» — на 19-й старонцы.

«...Отворачиваюсь, спускаю курок...Прости меня. Я мёртвый. Я живой. Я не знаю, как жить дальше» — на 137-й.

Апошнія словы — курсівам. Як і ўсё тое, што ў аповесці пра сучаснае жыццё героя.

Ад таго часу, калі забівае каханне, і да сёння ён не ведае, як далей жыць. Бо жыццё — бясконцы, ад вайны да вайны, палігон для выпрабавання чалавека на здольнасць забіваць. Найперш Каханне — адзінае, што ратуе героя аповесці ад стрэлу ва ўпор. І адзінае, у ва што ён ва ўпор страляе.

І жывы — становіцца мёртвым.

Між тым, пра каханне ў аповесці ані слоўца. Проста ёсць дзяўчынапартызанка, якая шкадуе небараку. І ёсць ён, хто забівае яе. Пад ціскам усёмагутнага Палігону.

Такая вось малазаўважаная крытыкамі сюжэтная лінія, якая робіць «Полигон» творам. Калі ў чымсьці і анты, дык **антываенным** найперш.

...«Ты забіты! Падай! Падай!»

Воўка хістаецца, чапляецца за рыштаванне, аддзірае дошку і разам з ёю нязграбна чмякаецца на кучу пяску... Я радасна падскокваю да яго. І раптам заўважаю, як па шчацэ цячэ кроў. Вочы заплюшчаныя, не рухаецца. Адкідваю драўлянае ружжо, штурхаю ў грудзі: «Уставай! Уставай!»

1947 год, нам па шэсць, мы гуляем у вайну. Колькі моцы, трасу яго за плячо. Ён расплюшчвае вочы: «Я ж забіты...»

...Я загортваю кніжку. І бачу перад сабой маладзёна, які праз 70 гадоў пасля той вайны пачувае сябе забітым. Бачу, як сёння па ягоным тварьі цячэ кроў — кроў айчыннай гісторыі.

І штурхаю яго ў грудзі, трасу за плячо: «Уставай!»

*kamerton_41@mail.ru*

# Прапаную дапоўніць Маніфест у абарону незалежнасці

Піша філосаф **Уладзімір Падгол**.

Уважліва прачытаў Маніфест і вырашыў параіць арганізатарам Кангрэсу за незалежнасць некаторыя дадаткі.

Вось, напрыклад, аўтары праекта Маніфеста пішуць:

«Мы заяўляем:

Беларусь — гэта наш дом, у якім мы хочам будаваць сваё жыццё і гадаваць наступныя пакаленні. Наша зямля не павінна быць «шчытом», «фарпостам» ці «буферам» для суседніх дзяржаваў. Размяшчэнне замежных вайсковых кантынгентаў і базаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь недапушчальнае. Усе замежныя войскі павінны пакінуць нашу тэрыторыю».

Прапаную ўжыць у тэксце Маніфеста ідэю Уладзіміра Караткевіча: «Беларусь — наш Дом, наш Храм».

Адсюль мусіць быць ужыта ў Маніфесце і ідэя роўных правоў для вернікаў усіх канфесіяў і адцуранне ад наяўнасці дзяржаўнай рэлігійнай канфесіі. А пакуль праваслаўная канфесія, якой кіруюць з Масквы, дэ факта зрабілася дзяржаўнай рэлігіяй і пагражае незалежнасці.

Ідэалагема «Наш Дом — Беларусь» патрабуе ўвядзення дзяржаўнай мяжы з Расіяй, бо адсутнасць мяжы-сцяны азначае, што наша Рэспубліка покуль не Дом, а прыбудова ці калідор. Адсутнасць мяжы з Расіяй дазваляе Крамлю разглядаць расійскія войскі ў Беларусі як натуральную з'яву. Крымінальнікі вольна сунуцца да нас з наркотыкамі і зброяй.

**Маніфест у абарону незалежнасці**

З'явіўся ў інтэрнэце для абмеркавання. Яго мяркуецца прыняць на Кангрэсе ў абарону незалежнасці, які мае адбыцца ў Мінску 21 снежня. Яго арганізуюць Рада беларускай інтэлігенцыі і Таварыства беларускай мовы. Да іх нечакана далучылася лукашэнкаўская Ліберальна-дэмакратычная партыя.

# Гнеўны адказ Філіпу Чмыру

Ён ненавідзіць беларускую мову і захапляецца гукамі барабана ці бубна. Для такога музыкі болей было б асалоды і радасці дзенебудзь у Афрыцы, а не ў Беларусі. Там шмат бубнення, можна досыць наслухацца, а тут ён выскачыў як Піліп з канапель, як наша прымаўка кажа. Відаць, ад бубна яму слых пашкоджаны, дзеля гэтага ён беларускай мовы гучання і мілагучнасці не вычувае. Трэба дзейсна паслухаць беларускую сэрцам, душою, тады ненавісць згіне зусім. Я раджу Філіпу слухаць іншую музыку, заміж бубна слухаць скрыпку, гітару, цымбалы і нават піяна. Бубна гукі нервы раздражняюць у большасці людзей, ды да таго аглушальны гук робіць глухаватымі людзей.

Хай спадар Філіп Чмыр наведае Англію, Нямеччыну і паслухае, як гэтыя людзі вымаўляюць словы. Ён прыйдзе да разумення, што ім гэтыя гукі падабаюцца. Хай ён паслухае, як яны кожную літару вымаўляюць, яны альфабэт у школе пяюць як песню.

Кожная мова мае свае плюсы і мінусы. Магчыма, Філіп Чмыр мае на ўвазе беларускую размоўную мову з рэгіёнаў. Але беларуская мова беларускіх класікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа і ўсіх беларускіх пісьменнікаў ёсць на высокім узроўні.

Мне выглядае, Філіп адносіцца да беларускай мовы, як расейскі цар да расейскай песні: ён зазначыў, што песня цыганская яму болей даспадобы, чым руская. Дык што, цар расійскі мог так сказаць аб расейскай песні? Я сказаў бы — не. Хоць ён і цар, але сваёй песні ён даў паніжэнне, а павысіў цыган.

У ЗША я стаўлюся да людзей і іх мовы з павагай, не абражаю ні адну з іх, бо лічу, што яны карыстаюцца ёй на карысць свайго народа.

Паважаная Рэдакцыя «НН»! Я бачу, газета дае мейсца на сваёй бачыне газеты розных поглядаў асобам. Як кажуць, гэта дэмакратыя. Я бачу тут недарэчнасць, бо Філіп абражае мову, на якой друкуецца «НН». На ангельскай мове я скажу ў двух словах: That Stink. Ён пісаў, што ён думаў, а я напісаў, што я думаю.

**Кастусь Верабей, Фармінгдэйл, ЗША**

**Маю верш**

## Pryvitańnie, pavažanaja redakcyja Našaj Nivy!

Piša vam vaš zaŭziaty čytač Źmicier Kres. Čytaju vas daŭno i ź vialikaj cikaŭnaściu i chaču vyrazić vam padziaku za vašu pracu. Niadaŭna mieŭ vialikuju pryjemnaść trymać u rukach faksimilnaje vydańnie vašaj papiarednicy za pačatak XX st. i adznačyŭ tam takuju cikavuju tradycyju: kožny numar źmiaščaŭ asobnuju kałonku ź vieršami i karotkimi apaviadańniami, čaho ciappier amal nie sustranieš u sučasnych miedyja. I škada. Bo heta dadaje peŭnuju sucelnaść infarmacyjnaj prastory, jakuju namahajecca stvaryć jaki zaŭhodna partał.
Aśmielusia prapanavać vam svoj vierš.

Kali b ja zmusiŭ Vas spynicca
I zatrymacca prada mnoj,
Mnie b chvalavańnie na spakoj
Vaš pramianiać
I łohkim stać.
Kali b ja zmusiŭ Vas spynicca,
Spakoj by mnie nie ŭtrymać,
Jak chvalavańnie nie suniać
Nadziejaj marnaju adnoj.

**Źmicier Kres**

# Сысці годна

## Спіс апошніх пажаданняў

Штодня мы прымаем безліч рашэнняў: малых і вялікіх, прафесійных і асабістых. За гэтымі жыццёвымі клопатамі нам не стае часу на тое, каб задумацца і вырашыць, якім бы мы хацелі бачыць свой сыход, а тым больш абмяркоўваць гэта з роднымі і блізкімі. У нашым грамадстве не прынята размаўляць на тэму смерці. Дзеля таго, каб пераадолець гэта сацыяльнае табу, у верасні 2014 года **чэшскае грамадскае аб'яднанне Cesta Domu («Вяртанне»)** пачало інфармацыйную кампанію «Падумайце аб смерці», якая выклікала шырокі рэзананс не толькі ў Чэхіі, але і далёка за яе межамі.

З дапамогай спецыяльна створанага сайта — **Thinkaboutdeath.org** — кожны мае магчымасць скласці свой асабісты спіс апошніх пажаданняў. Тут можна не толькі выбраць музыку ды вопратку для свайго пахавання, але і выказаць свае страхі перад смерцю ды сфармуляваць апошнюю волю. Гэты спіс застанецца прыватным, і яго не ўбачаць іншыя інтэрнэт-карыстальнікі, але пры жаданні ім можна падзяліцца з сябрамі ў сацыяльных сетках.



ТАА «ІРВІНГА ГРУПА» УНП 191751509

Пра мэты кампаніі, яе эфект і планы на будучыню гутарым з Лібарам Ванекам, адным з аўтараў канцэпцыі, і Геленай Штоганзлавай, менеджарам праектаў Cesta Domu.

**Як узнікла ідэя такой незвычайнай кампаніі?**

**Лібар Ванек:** Ужо 13 гадоў наша арганізацыя аказвае медыцынскую і псіхалагічную дапамогу людзям з апошнімі стадыямі цяжкіх захворванняў і іх сем'ям. Гэта так званая паліятыўная медыцына, скіраваная на паляпшэнне якасці жыцця пацыентаў, якія паміраюць, мінімалізацыю болю і іншых цяжкіх пабочных эфектаў. Штогод мы праводзім сацыялагічнае апытанне на тэму стаўлення да смерці ў грамадстве. Вынікі такога апытання 2013 года яшчэ раз пацвердзілі, што людзі не любяць размаўляць пра смерць. Больш за тое, іх жаданні адносна свайго сыходу не адпавядаюць рэчаіснасці: 78% рэспандэнтаў сказалі, што яны хацелі б памерці дома, але пра гэтым большасць (69%) памірае ў шпіталях. Пераважна людзі не паспяваюць своечасова сфармуляваць і абмеркаваць сваю апошнюю волю з сем'ямі. Многія ўвогуле ніколі не размаўляюць на тэму смерці. Таму асноўная мэта гэтай інфармацыйнай кампаніі — пераканаць людзей пачаць размаўляць на гэту складаную тэму своечасова. Гэта дапаможа не толькі пераадолець свае асабістыя страхі і самоту, але таксама дазволіць родным лепш зразумець і годна выканаць апошнюю волю блізкага ім чалавека.

**На каго ў першую чаргу скіравана кампанія, улічваючы, што яе асноўным інструментам з'яўляецца інтэрнэт?**

**Гелена Штоганзлава:** Першапачаткова мы планавалі, што нашай асноўнай мэтавай групай будуць маладыя людзі ў веку 20—25 гадоў — найбольш актыўныя інтэрнэт-карыстальнікі. Мы зыходзілі з таго, што моладзі, для якой смерць уяўляецца вельмі аддаленай і даволі абстрактнай перспектывай, будзе крыху прасцей закрануць гэту няпростую і эмацыйную тэму ў размовах са старэйшым пакаленнем: скажам, са сваімі бабулямі і дзядулямі. Яны б сталі своеасаблівымі праваднікамі ў сваіх сем'ях.

**ЛВ:** Мы былі шчыра здзіўленыя, калі заўважылі, што больш за 50% наведнікаў сайта кампаніі — гэта людзі ва ўзросце 35+, пры гэтым 7% з іх складаюць тыя, каму больш за 65 гадоў. Магчыма, гэта вынік таго, што кампанія атрымала шырокі розгалас у традыцыйных СМІ (газетах, ТБ і радыё). Да яе далучыліся знакамітасці — пісьменнікі, артысты, мастакі, — якія разважаюць пра сваё стаўленне да смерці. Хтосьці даў вельмі глыбокія, інтэлектуальныя адказы ў форме эсэ. Іншыя запісалі кароткія відэазвароты. Для многіх гэта быў першы раз, калі яны задумаліся пра смерць, сваю апошнюю волю ды публічна падзяліліся сваімі разважаннямі.

**Якой была рэакцыя грамадскасці?**

**ЛВ:** Вельмі станоўчай. Нешта кшталту: «Нічога сабе! Я ніколі пра гэта не думаў. Гэта цікава». Сродкі масавай інфармацыі падхапілі нашу ідэю, гэта прыцягнула ўвагу шырокіх колаў людзей, што, у сваю чаргу, дазволіла распачаць больш грунтоўную дыскусію ў грамадстве. За тры месяцы ад пачатку кампаніі на нашым сайце пабывала каля 45 тысяч наведнікаў. На сённяшні дзень больш за 800 чалавек стварылі свае анлайн-«спісы апошніх пажаданняў». Вельмі часта такі спіс складаюць сем'ямі: дзеці з бацькамі, унукі з дзядулямі і бабулямі. Кампанія стала мостам паміж пакаленнямі, дапамагла сем'ям зблізіцца, пераадолець парог маўчання. Для нас важнай з'яўляецца не колькасць, а вось гэты працэс дыялогу. Нашы чытачы дзеляцца з намі сваімі вельмі кранальнымі асабістымі гісторыямі.

**А ці вы самі склалі свае спісы апошніх жаданняў?**

**ГШ:** Так, я гэта зрабіла, і гэта быў вельмі цікавы, часам складаны досвед, які прымусіў пераасэнсаваць некаторыя рэчы. Спачатку, калі ты выбіраеш музыку ці вопратку для свайго будучага пахавання, усё гэта падаецца забаўкай. А вось калі я пачала фармуляваць для сябе свае ўласныя страхі перад смерцю, то гэты момант быў вельмі эмацыйным і важным. Крыху паразважаўшы, я падзялілася са сваімі сябрамі ў «Фэйсбуку» толькі часткай свайго спіса, але некаторыя рэчы былі настолькі асабістымі, што іх я пакінула выключна для сябе.

**ЛВ:** Я яшчэ ў працэсе. Мы робім гэта разам з жонкай.

**Ці плануеце вы пашыраць кампанію за межамі Чэхіі?**

**ЛВ:** Жаданне ёсць, але паколькі кампанія робіцца на нашы ўласныя сродкі і дабрачынныя ахвяраванні, то рэсурсы ў нас абмежаваныя. Аднак гэтай ідэяй вельмі зацікавілася Еўрапейская асацыяцыя паліятыўнай дапамогі, у якой ёсць аддзяленні ў многіх еўрапейскіх краінах, а таксама ў Расіі. Мы спадзяемся, што наша супрацоўніцтва будзе плённым. Нядаўна мы запусцілі англамоўную версію сайта кампаніі. І зараз, дарэчы, шукаем валанцёраў, якія б дапамаглі перакласці і лакалізаваць (падабраць уласцівыя для сваёй краіны прыклады музыкі, вопраткі і іншай атрыбутыкі пахаванняў) наш сайт на іншыя мовы. Калі кагосьці з Беларусі зацікавіць такая магчымасць, калі ласка, пішыце мне на электронную пошту: libor.vanek@cestadomu.cz.

**Артыкул падрыхтаваны пры падтрымцы грамадскага аб'яднання Cesta Domu (г. Прага, Чэшская Рэспубліка)**

# Па манету з Астрожскім стаяла чарга

16 снежня **Нацбанк пачаў продаж** памятнай манеты з выявай гетмана ВКЛ Канстанціна Астрожскага.



Свядома ці не, але адбілі манету ў юбілейны год — на 500-годдзе перамогі войска ВКЛ пад загадам Астрожскага над войскам Маскоўскага княства пад Оршай. Усяго было адбіта 5 тысяч манет: 2 тысячы са срэбра і 3 тысячы з медна-нікелевага сплаву. Выйшлі яны ў серыі «Умацаванне і абарона дзяржавы».

Ад раніцы ля касы Галоўнага апарата Нацбанка сабралася чарга. Нумізматы былі ў шоку: такога яны ніколі не бачылі.

Былі ў чарзе і тыя, хто хаваў твар, каб не трапіць у аб'ектыў фотаапарата. Найхутчэй, гэта перакупшчыкі, якія набываюць манеты для перапрадажу. Бо манеты лімітаваных серый можна прадаць значна даражэй за іх цану. На інтэрнэт-аўкцыёнах срэбныя памятныя манеты, якія Нацбанк прадае па 300 тысяч рублёў, каштуюць 80—100 даляраў.

**Кірыла Хілько, фота аўтара.**

## Сяргей Ждановіч: **Так, я член «Белай Русі»**

Драматург Андрэй Курэйчык напісаў у сваім Фэйсбуку: «Мне распавялі, што спадар Сяргей Ждановіч, які ўжо развёў краіну на некалькі мільёнаў даляраў, цяпер ходзіць і распавядае, што для таго, каб выпусціць эпічны фільм «Мы, браты» — «Авель» яму трэба яшчэ 2 мільёны даляраў! ...Такога нахабства нават у Расіі сабе не дазваляюць ні Міхалкоў, ні Лунгін, ні Канчалоўскі». Сяргей Ждановіч, кіраўнік кінакампаніі «Nonstop Media» і прадзюсар стужкі «Мы, браты» («Авель»), адказвае на абвінавачванні.

**«Наша Ніва»: Андрэй Курэйчык сцвярджае, што Вы хочаце выбіць з дзяржавы яшчэ 2 мільёны даляраў на тое, каб выпусціць пракатныя копіі. Гэта праўда?**



**Сяргей Ждановіч з выканаўцам адной з галоўных роляў «Авеля» Эрыкам Робертсам.**

**Сяргей Ждановіч:** Гэта паклёп. У межах кантракта, які мы падпісалі, Мінкульт даў нам пэўную суму грошай, і ні на капейчыну больш мы разлічваць ужо не можам. А мы зараз робім постпрадакшн — гэта мантаж, праца з гукам, графіка і г.д. Гэта робіцца ў ЗША за нашыя ўласныя грошы — грошы кампаніі «Нонстоп Медыя».

**«НН»: А чаму ў ЗША?**

**СЖ:** Каб задаволіць амерыканскіх дыстрыб'ютараў. Калі мы давядзём якасць да той, якая іх задаволіць, стужка будзе куплена. Гэта першы беларускі праект, які быў прадстаўлены на American Film Market — асноўным сусветным маркеце, дзе прадаюцца фільмы. Нам прапанавалі кантракты сур'ёзныя карпарацыі. Зацікавіліся нават кітайскія пракатчыкі.

**«НН»: Калі зацікаўленасць існуе, то фільм павінен як мінімум пакрыць выдаткі на яго вытворчасць. А колькі Вашая кампанія на гэтым зможа зарабіць?**

**СЖ:** Па кантракце прыбытак дзеліцца напалову паміж намі і Міністэрствам культуры. Але важна тое, што гэта будзе першы праект, які ўвогуле адаб'е грошы.

**«НН»: Людзі ставяцца да Вашай стужкі скептычна, бо замест Вялікага Беларускага Праекта Мінкульт разам з вамі зняў стандартны баявік?**

**СЖ:** Мы прапаноўвалі дзяржаве і экшн, і драму, і фэнтэзі... Аднак Мінкульт зацікавіўся вось гэтым. Дарэчы, спачатку ў нашым сцэнары не было Плошчы, выбуху ў метро. Гэта была ўмова Мінкульта. Але Мінкульт не дыктаваў нам, як паказваць Плошчу.

У нас было два варыянты, як паказваць Плошчу: з бел-чырвона-белымі сцягамі ці без іх. І мы не сталі выкарыстоўваць сцягі, каб нікога не нерваваць.

**«НН»: А культавы лозунг «что-то не так», які ў фільме скандуе Плошча?**

**СЖ:** Ён у фільме з'явіцца. Прыкольная фраза. Што тычыцца Плошчы, то ў нас паказана, што першапачаткова гэта была мірная акцыя, а потым там з'яўляюцца правакатары. І праз нашу гераіню, журналістку Алесю, глядач разумее, што акцыя ператвараецца ўжо ў не зусім мірную.

**«НН»: У наступным годзе выбары, а ў фільме паказваецца раз'юшаны натоўп на галоўнай плошчы краіны. Не баіцеся, што фільм успрымуць у тым ліку як агітку?**

**СЖ:** Няхай палітыкай займаюцца палітыкі. Не трэба змешваць з гэтым кінаіндустрыю.

**«НН»: А Вы ж, кажуць, член грамадскага аб'яднання «Белая Русь». Гэта не палітыка?**

**СЖ:** Я член «Ротары-клаба», мы займаемся дабрачыннасцю. І на некаторых мерапрыемствах перасякаліся з прадстаўнікамі «Белай Русі». І мне прапанавалі далучыцца. Я прагледзеў статут і ўступіў. Не бачу ў гэтым нічога дрэннага. А палітызаваць можна ўсё што заўгодна — той жа «Ротары-клаб» называюць масонамі, напрыклад.

Я супраць гвалту і агрэсіі, супраць паўстанняў. І тое, што адбываецца, напрыклад, на Украіне — хто там правы, а хто вінаваты? Калі гіне нехта з вашай сям'і, то вам ужо ўсё роўна на лозунгі і заклікі. І я за тое, каб да гэтага не дайшло ў Беларусі. Чаму актуальны наш фільм — я паказваю яго амерыканцам, і яны бачаць, што гэта гісторыя, якая магла б адбыцца дзе заўгодна. І калі нашыя гледачы паглядзяць яго, я спадзяюся, яны таксама зразумеюць.

**«НН»: Дык калі яны змогуць нарэшце паглядзець?**

**СЖ:** Мы плануем зрабіць прэм'еру ў красавіку-маі будучага года. Будзе і серыял з 4 частак у канцы жніўня ці ў пачатку верасня.

**«НН»: На беларускім тэлебачанні?**

**СЖ:** Не, на расейскім. Права на першы паказ атрымлівае канал, які плаціць больш.

**«НН»: Чым плануеце займацца пасля выхаду фільма?**

**СЖ:** Усё распісана да 2017-га. Але галоўнае — дарабіць «Мы, браты». Вы ведаеце, што пра наш праект расейцы кажуць? «Беларусы здымаюць круты блокбастар за капейкі». Амерыканцы: «Упершыню недзе там, у Беларусі, здымаецца блокбастар, прычым практычна бясплатна. Як гэта магчыма?» І толькі беларусы: «У нас здымаюць дрэннае кіно за вельмі вялікія грошы!» А трэба ж любіць сваё — беларускае.

**Гутарыў Улад Швядовіч**

**Сяргей Ждановіч**

генеральны прадзюсар кінакампаніі «Нонстоп Медыя», кампазітар. Нарадзіўся ў 1974 у Расіі, у 1978 сям'я пераехала ў Беларусь, у Капыль. Скончыў музычнае вучылішча ў Маладзечне. Працаваў як кампазітар з Інай Афанасьевай. Напісаў музыку да шэрагу расійскіх фільмаў. Супрацоўнічаў з А.Курэйчыкам у стварэнні серыяла «Вышэй за неба». Прадзюсар фільма «Мы, браты» («Авель»).

**«Дзецюкі» — героі года**

Музычны партал Tuzin.FM падвёў вынікі музычнай прэміі «Героі года». Перамог гродзенскі гурт «Дзецюкі». Свой стыль яны называюць фолк-панк, а вылучаюцца з агульнае плыні рэзкасцю і зацікаўленасцю гісторыяй. Яны паслядоўна выкарыстоўваюць эстэтыку антыбальшавіцкага змагання ў Беларусі на пачатку ХХ стагоддзя — і маюць слухача. За год гурт выдаў альбом, зняў чатыры кліпы. На здымках кліпа на песню «Хлопцы-балахоўцы» «Дзецюкоў» затрымала міліцыя.



**«Дзецюкі» на здымках кліпа.**

## Моладзь Гомеля гуртуецца вакол мовы

Актывісты **Таварыства беларускай мовы** арганізавалі ў Гомелі гурток беларускай мовы «Лемантар».

Праводзіць гурток Алеся Аўласевіч — выпускніца Лінгвістычнага ўніверсітэта.

«З моўнага гуртку, на які я выпадкова трапіла некалі ў Мінску, пачалося маё захапленне мовай. Тры гады таму я нават некалькі слоў звязаць не магла па-беларуску. Але мову трэба вучыць, і гэта не так складана, мова ў нас у крыві», — упэўненая дзяўчына.

На занятні сабраліся чатырнаццаць чалавек. «Я прыйшоў, каб пабавіць час з беларускамоўнымі людзьмі», «Я прыйшла вывучыць мову, бо мне складана размаўляць на ёй», «З'явіўся вольны час, вось і прыйшоў», «Я і мая дзяўчына спрабуем размаўляць паміж сабой на мове, але выходзіць пакуль не вельмі — пык-мык», — патлумачылі ўдзельнікі гуртка векам 20+.

Паміж удзельнікамі падзялілі ролі: нехта рыхтуе прамовы, іншы выступае крытыкам ці сочыць за часам, памылкамі, празмерным ужываннем слоў-паразітаў, псіхалагічнай атмасферай на занятках.

Прамовы можна рыхтаваць на розныя тэмы, але існуюць два абмежаванні: палітыка і рэлігія.

Некаторыя ўдзельнікі гуртку ставяць амбітныя задачы: разам зрабіць Гомель больш беларускім.

У Гомелі рэдка можна пачуць беларускую мову. Тут ёсць толькі адна «ўзорна-паказальная» група ў дзіцячым садку, дзе частка заняткаў праводзіцца на беларускай мове. Тут ёсць толькі адна «ўмоўна-беларуская» гімназія, дзе на роднай мове арганізаваны выхаваўчы працэс, а большасць прадметаў вывучаецца на рускай мове. Няма чаго гаварыць пра ВНУ. Але юнакі і дзяўчаты, якія выраслі ў рускамоўным асяроддзі, — хочуць ведаць родную мову.

Усё-такі мова ў нас у крыві.

**Юлія Шымкевіч**

## ХАКЕЙ

### «Дынама» — СКА

СКА

**24 снежня на «Мінск-Арэне»** «Дынама» ў рамках рэгулярнага чэмпіянату КХЛ будзе прымаць аднаго з лідараў заходняй канферэнцыі — піцерскі СКА. Пачатак у 19:30.

## КАНЦЭРТЫ

### Navi

**20 снежня ў бары «ДК» (Талбухіна, 4)** гурт Navi прэзентуе акустычны альбом «Сонцам сагрэтыя». Пачатак а 19.

### Akute

**20 снежня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае гурт Akute. Пачатак а 19.

### «Джаз на Калядых»

**20 снежня «Джаз на Калядых» арганізуюць у магілёўскай ратушы (Ленінская, 1А)** — для гурманаў выступяць Маргарыта Ляўчук і джаз-бэнд «JuicyJazz». Пачатак а 15.

### «Калядныя імправізацыі»

**23 снежня а 19 Музычны салон Палаца Румянцавых і Паскевічаў у Гомелі (пл. Леніна, 4)** запрашае на «Калядныя імправізацыі — 2014» з «Vasabi jazz band».



## ТЭАТР

### 18 снежня

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам

### 19 снежня

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Юнага гледача** — Прыгоды пад Новы год

### 20 снежня

**Балет** — Лебядзінае возера
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Воўк і сямёра казлянят
**Юнага гледача** — Прыгоды пад Новы год

### 21 снежня

**Балет** — Лебядзінае возера
**Купалаўскі** — Офіс
**Лялек** — Воўк і сямёра казлянят
**Юнага гледача** — Прыгоды пад Новы год

### 23 снежня

**Беларускай драматургіі** — Усе мышы любяць цырк, Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Хам
**Лялек** — Марозка
**Опера** — Лятучы галандзец

### 24 снежня

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі, Воўк-мараплавец
**Балет** — Сільфіда
**Купалаўскі** — Translations
**Лялек** — Кот у ботах



## ВЫСТАВЫ

### Каляровыя аповеды

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр-т Незалежнасці, 47)** праходзіць персанальная выстава жывапісу Васіля Касцючэнкі «Каляровыя аповеды». Адышоўшы ад састарэлай кансерватыўна-акадэмічнай пластыкі, мастак здолеў выпрацаваць свае прыёмы, уласцівую толькі яму жывапісную пластыку, адэкватную сённяшняму часу. Стыль творцы ўпісваецца ў сусветную хвалю «новай фігуратыўнасці». У ім спалучаюцца элементы беспрадметнага і рэалістычнага мастацтва.

### Мастацтва рэстаўрацыі. Магія майстэрства

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20) праходзіць наватарская выстава «Мастацтва рэстаўрацыі. Магія майстэрства».** У рэстаўрацыйных майстэрнях музея працуюць 19 спецыялістаў, якімі ў працы рухаюць гістарычная цікавасць, эстэтычнае пачуццё і маральны абавязак. Аснова экспазіцыі — 25 твораў мастацтва XVIII—XIX стагоддзяў. Сярод іх — творы алейнага жывапісу, тэмпернага іканапісу, скульптуры, фарфору, ткацтва і графікі. Асаблівасць падачы матэрыялу заключаецца ў тым, што прадмет, узяты быццам з рук рэстаўратара, пасля паказу на выставе зноў вернецца на працоўны стол для завяршэння рэстаўрацыі.

### Imp-Art: Немагчымае мастацтва і аптычныя ілюзіі

**У Цэнтры сучаснага мастацтва (Някрасава, 3) разгарнулася незвычайная выстава «Imp-Art: Немагчымае мастацтва і аптычныя ілюзіі».** Мастацкі кірунак «impossible art» сфармаваўся ў Еўропе ў 80-я гады XX стагоддзя. Выяўленчую аснову гэтага кірунку склалі геаметрыя падманак і іншыя эфектныя візуальныя ілюзіі, атрыманыя ў выніку маляванні немагчымых фігур. І цяпер праекты немагчымых фігур, візуальныя ілюзіі і галаваломкі працягваюць цікавіць і натхняць шэраг дызайнераў і мастакоў краін СНД. Выставачны праект «**Imp-Art**» дазваляе паказаць сучасную карціну развіцця гэтага кірунку ў краінах СНД у кантэксце сусветнай культуры.



## КІНО

### Хобіт: Бітва пяці войскаў

**Жанр:** фэнтэзі, прыгоды
**Рэжысёр:** Пітар Джэксан
**У ролях:** Марцін Фрыман, Іэн МакКелен, Рычард Армітэдж, Джэймс Несбіт, Кен Стот, Грэм МакТавіш, Уільям Кірчар, Стывен Хантэр.
144 хв, ЗША, Новая Зеландыя.

Завяршальная частка кінатрылогіі па матывах культавага фэнтэзі Дж.Р.Р. Толкіна «Хобіт, або Туды і назад».

У пагоню за трынаццаццю гномамі на чале з каралём Торынам Дубатарчам накіравалася армія оркаў, натхнёных абуджаным старажытным злом. Эльфы і людзі, з якімі Більба і яго сябрам прыйшлося мець справу падчас падарожжа і якія пацярпелі ад абуджанага гномамі дракона Смаўга, прад'явілі правы на сваю ўзнагароду — частку скарбаў Самотнай гары, дзе цяпер акапаліся адважныя гномы. Хутка непадалёк ад Самотнай гары сустрэнуцца пяць войскаў, і толькі кровапралітная бітва вызначыць вынікі смелага паходу. Заключная частка падарожжа хобіта Більба Торбінса ў складзе гномскага атрада расказвае пра апошнюю спробу гномаў адстаяць свой родны Эрэбар. Спрадвечна цяжкія адносіны паміж рознымі расамі ўскладняюцца барацьбой за скарбы Самотнай гары: эльфы і людзі таксама хочуць вярнуць свае рэліквіі, а оркі і гобліны зробяць спробу захапіць гару як стратэгічны аб'ект.

Фільмы Джэксана і раней уражвалі відовішчнасцю і размахам. Цяпер гледачу прапануюцца як кадры з эпічнымі бітвамі войскаў розных расаў, так і ўражвальныя двубоі. На жаль, часам спецэфекты рухаў персанажаў выглядаюць трохі ненатуральнымі. Працягласць стужкі не напалохае аматара фэнтэзі: ад маляўнічасці і напружанасці фільма можна атрымаць сапраўдную асалоду.

**Настасся Уласава**

# Беларусізацыя ў Мінску: адчуванне надыходзячай лавіны

Піша **Кацярына Андрэева**.



У лістападзе я прыехала ў Мінск пасля амаль што двух гадоў еўрапейскай эміграцыі. Беларускую мяжу мне давялося тады пераходзіць літаральна пешшу. Супрацоўніца літоўскай мытні махнула рукою кудысьці ў шэрую вільготную пустэчу: «Ідзіце проста, уздоўж вось гэтай белай лініі, праз метраў пяцьсот будзе Беларусь...»

І я пайшла, цягнучы свой невялікі багаж. Цяжка дыхаючы, размазваючы слёзы, нахіляючыся ад ветру ды хістаючыся, я ішла «ў Беларусь». І з кожным крокам дзесьці ўнутры, пад рэбрамі, нарастала вядомае мне пачуцце набліжэння да чагосьці хвалюючага і небяспечнага, але разам з тым непазбежнага. Як у дзяцінстве, калі стаіш у чарзе на прышчэпку.

Падобнае было і два гады таму — мой самалёт «Мінск — Парыж» адарваўся ад узлётнай паласы, і я ўпершыню апынулася паміж зямлёю і небам... Так разважаючы, я ішла. Тыя «пяцьсот метраў» здаваліся неверагоднай адлегласцю. І вось наперадзе паказаўся дзіўны, з вялікімі брудна-залатымі літарамі знак «Беларусь» — як непрацуючы маяк на востраве пасярод акіяна. Ты можаш плысці ў гэтым кірунку толькі калі пэўны, што там сапраўды ёсць суша. Да гэтай шчымлівай карціны пасавала ўсё навакольле, яно было як у чорна-белай драме невядомага рэжысёра — шэранькі дождж, чорны асфальт, голыя дрэвы абапал дарогі. Вось я і дома.

Вось і Мінск. Мне цяжка было адразу пазнаць горад. Першае ўражанне — аднатыповыя шматпавярхоўкі, недарэчныя крышталёвыя збудаванні свінцовых адценняў выраслі як грыбы за час маёй адсутнасці. Незнаёмыя раёны, людзі з нязвыклымі для мяне выразамі твару... Не, усё гэта было і раней, але цяпер успрымалася па-новаму. Людзі, якія жылі доўгі час далёка ад роднага горада, зразумеюць...

За колькі тыдняў я зразумела, што ў Мінску змянілася не толькі архітэктура спальных раёнаў, а аб'явы у метро цяпер гучаць і па-англійску. Ёсць і нешта яшчэ. На вуліцы хлопчыкі ды дзяўчаткі майго веку раздавалі стужкі з беларускім арнаментам. Па радыё спявалі беларускія гурты. Нават прэзідэнт намагаўся прамовіць па-беларуску, пераадольваючы «трасянку». Вядома, гадзіны праз дзве атрымалася б увогуле шыкоўна, проста трэба было падрыхтавацца...

Падрыхтавацца. Гэтае слова не выходзіць у мяне з галавы. Падрыхтавацца, каб размаўляць на роднай мове? Ці да чаго яшчэ?

Да чаго і да каго трэба рыхтавацца беларусам? Так, не хочацца рабіць апакаліптычныя філасофскія высновы. Але калі запытаць у сябе — ці я падрыхтавалася, адказ невядомы. Бачна, што маладыя беларусы, шматлікія мае знаёмыя, адчуваюць у сэрцы цікавую сумесь са страху і адвагі. Страх перад невядомым —гэткае дагістарычнае пачуццё, і адвага — жаданне ісці наперад са стужачкай на запясці. Але наперадзе — востраў з непрацуючым маяком. Памятаеце — толькі калі ўпэўнены...

Насамрэч сучаснай моладзі цікава быць сведкамі так званай палітыкі «мяккай беларусізацыі». Менавіта цікава, бо з'яўляюцца розныя цікавосткі накшталт стужак з арнаментам, праекта «Арт-сядзіба»; таксама ёсць вышымайкі і вышыванкі, бел-чырвона-белыя налепкі і бірулькі — поўны набор юнага патрыёта. Цікава, бо можна паспрабаваць свае творчыя здольнасці ў якасці фатографа, журналіста ці нават каардынатара культурнай ініцыятывы. Гэта добра. Гэта радасна. Гэта для нас як глыток свежага паветра, ведаеце? Менавіта так.

З такімі вось думкамі я прыйшла 13 снежня на мерапрыемства «Дзень вышыванкі» ў Палац мастацтваў. Шмат народу, суцэльны натоўп на ўваходзе: тут і моладзь, і сем'і з дзеткамі, і пенсіянеры! Працэнтаў семдзесят ад усёй гаворкі,што была чутна навокал — на мове. Апранутыя з элементамі нацыянальнага каларыту вясёлыя людзі падыходзяць адзін да аднаго, вітаюць з добрай усмешкай, пытаюцца ці засталіся яшчэ стужачкі. На сэрцы становіцца незвычайна лёгка, а ў паветры лунае нешта, нешта нябачнае — забыты водар скансэнтраванай, згуртаванай беларускай свядомасці. У цэнтры пляцоўкі на першым паверсе ўсталяваная невялічкая трыбуна, на якую па чарзе ўзбіраюцца прыгожыя дзеці, каб прачытаць вершы Купалы ды Багдановіча, дзяўчыны танчаць і пяюць: «Купалінка, купалінка, цёмная ночка...» На другім паверсе жыва ідзе гандаль вырабамі беларускіх мастакоў і дызайнераў — кашулі, вышымайкі, кераміка, ільняныя анёлы... Побач стаяць два міліцыянеры, няёмка прыхіліўшыся да сцяны. І вось, праціскаючыся праз натоўп на лесвіцы, я пачула наступнае:

— Каго любіш? — пытаецца з трыбункі Франак Вячорка. Зала нешта загула.

— Яшчэ раз, не чую! Каго любіш?!

Зала зараўла:

— БЕЛАРУСЬ!

— То ўзаемна, — адказвае словамі Каліноўскага Вячорка.

Зала раве. Цяжка апісаць, што асабіста я адчула ў гэты момант. Спачатку — экстатычны ўсплёск у грудзях, а пасля — страх. Халодны агідны страх забіўся, запульсаваў у скронях. Быццам бы я стаю каля падножжа гары і назіраю, як у вышыні нада мною збіраецца лавіна. А я — не падрыхтавалася.

...Неяк праціснулася у канферэнцзалу, дзе праходзіў майстар-клас па беларускіх народных песнях. Тут таксама паветра было наэлектрызавана. Людзей было столькі, што мне з сябрам прыйшлося сесці на падлогу. На ўваходзе ў залу хлопчыкі-валанцёры выдалі нам паперу з алоўкамі:

— Намалюйце, калі ласка, Беларусь, якой вы ўяўляеце яе сабе праз дваццаць гадоў.

Сябар намаляваў сумны тварык, а я чамусьці — дарогу, шашу з нікуды ў нікуды. Мабыць, астаткавыя праявы няўдалай эміграцыі — пасмяяўся сябра. На сцэне Алесь Таболіч распавядаў пра віды і асаблівасці татуіровак з беларускім арнаментам: «Калі рабіць дробненькія малюначкі, выцінанкі, праз год яны разпаўзуцца і на гэтым месцы застанецца адна каляровая пляма». І тут зайгралі «Пагоню». Спачатку мне захацелася плакаць, але потым я згадала, што казаў мне адзін разумны чалавек: там, дзе пачынаецца празмерная сентыментальнасць, знікае сапраўдная любоў.

Спускаюся зноў у вестыбюль, там сядзяць дзяўчыны і займаюцца бодзі-артам, робяць часовыя малюнкі-татуіроўкі ўсім ахвотным. Арнамент, «Пагоня», старажытная паганская руна Сонца... Зразумела. Татуіроўкі — гэта мода. І ўжо другі раз адчуванне надыходзячай лавіны навісла над маёй галавою.

«Мяккая беларусізацыя» — гэта цалкам зразумелая, прадуманая і натуральная ў сучасных геапалітычных умовах палітыка нашай дзяржавы. Бараніць свае, але без рэзкіх штуршкоў, каб і суседзяў не пакрыўдзіць. І так магло б працягвацца і далей, але ці камфортна сядзець на дзвюх табурэтках адначасова і як доўга можна трымаць раўнавагу? Як паказвае досвед — кароткі час, пакуль суседа не пачне незадавольваць якасць беларускіх каўбасаў ці солі. Тут быццам бы трэба зрабіць крок назад, умацаваць сяброўства ў саюзнай дзяржаве. Але не, не ўсё так проста. У нас таксама ёсць гонар! Нас нельга вось так проста нахіліць! «Нахіляючыя» могуць змяняцца, але мы трымаемся, мы ж беларусы, а не якія- небудзь «рускіе со знаком качества».

«Мяккая беларусізацыя» — справа добрая. Так чалавек, які вырашыў скончыць жыццё самагубствам і ў апошні момант перадумаў, чапляецца нагою за табурэтку, але яна ўжо падае на падлогу, збітая той жа нагою.

Да такога мы не рыхтаваліся.

**Другі «Дзень вышыванкі» прайшоў пры поўным аншлагу**

Яго ў суботу 13 снежня правяла пры падтрымцы Беларускага саюза мастакоў «Арт-Сядзіба».

З 15.00 да 22.00 ў холе Палаца мастацтва працавала выстава вышыванак, адзення і сувеніраў ад папулярных маладзёвых брэндаў, гандлявалі рамеснікі і майстры. Прайшлі майстар-класы па беларускіх тату і стрыт-арце, моўныя конкурсы і розыгрышы падарункаў. Для наведнікаў выступілі гурты «Амарока», «Знарок», «Наві» ды «Палац».

Усяго на Дні вышыванкі пабывалі да 5000 чалавек.





# Тое, чаго я не чакаў

Апавяданне-блюз. Піша **Віктар Шукеловіч**.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Мне адразу кінулася ў вочы, што старшыня сельсавета кепска паголены. Калі б ён трапіў у краіну надта маленькіх ліліпутаў, тыя маглі б палічыць касматыя лапікі валосся на ягоных шчоках аазісамі ў пустыні. Мужчына сярэдняга веку з вялікімі залысінамі, адзеты ў цеснаваты шэры касцюм нервова стукаў асадкаю па стале, пры якім сядзеў у сваім кабінеце са сценамі савецка-бэжавага колеру. У абціслым звычайна выглядаюць лепш, чым у адзенні большага памеру, але старшыні было далёка да лонданскага дэндзі — касцюм быў моцна змяты, нібыта мужчына куляўся ў ім з горкі праз галаву, як гэта рабілі дзеці на Вялікдзень.

— Чаго прыйшлі? — з вайсковай бадзёрасцю запытаўся ён. Ад ягонага аж занадта пэўнага голасу я адчуў сябе 85-гадовым дзедам Панасам з Цялежышак, што нейкім цудам трапіў на прыём да князя Манака. Ад старшыні ішоў моцны дух нетутэйшай зямлі — ці то заморскага адэкалону, ці то нейкіх экзатычных прыправаў.

— Заплаціць падатак за кароў, — найцвярдзей, як мог, сказаў я, каб верхавода нашага сельсавета не адчуў, што я прыгас, як нейкіківайла вулічны, што прысоўгаўся да прыстойных людзей.

— Дык гэна не да мяне, прайдзіце ў бухгалтэрыю, — старшыня згубіў інтарэс да наведніка і апусціў галаву ў паперы.

— Дык я там быў, мне сказалі, што трэба плаціць за адну карову, а ў мяне дзве... рабая і рудая...

— Зараз паглядзім, — старшыня закорпаўся ў нейкіх тэчках, наваленых на стол. — Ага, Юрэвіч... Адна карова ў вас значыцца, дык і плаціце за адну карову, не дурыце галавы. Хочаце, дык плаціце за дзесяць ці за ўсю ферму...

Я заўважыў, што на старшынёвай губе была кроў. Прыкусіў язык, можа, ці шчаку. Альбо губы парэпаліся ад холаду.

— Ага, ну добра, — гадзіўся ўжо я. — Але калі б хацеў здаваць карову на ўбой, каб мне раптам не сказалі на мясакамбінаце, што карова крадзеная, — тлумачыўся я. — Дзе ж у тых паперах карова згубілася?

— Можа, паляцела быкаваць, а можа, ваўкі з'елі, — заўсміхаўся вінавата старшыня і міргнуў мне: маўляў, усё будзе добра, не бядуй — менш заплаціш. Хваля ўдзячнасці заліла мяне. Усё-такі наш старшыня — ніякі не задавака, а такі Робін Гуд, што заступаецца за бедных. Я глядзеў на яго і ягоны гарнітур, пакуль ён увішна выпісваў мне даведку. І ягоны касцюм перастаў раздражняць. Такі гарнітур меў некалі, пэўна, настаўнік Лабановіч, што сеяў асвету на Палессі.

— Вось, бярыце, — старшыня працягнуў мне паперчыну. — Аплаціце па квітанцыі ў бухгалтэрыі...

Я падышоў бліжэй да стала. Глянуў на працягнутую руку — рукаво шэрага пінжака пераходзіла ў светла-блакітную манжэту кашулі, а ўжо зусім белай, як снег, была скура на старшынёвай руцэ. Толькі што гэта? З-пад кашулі вытыркаўся пук густых і чорных валасоў. Нешта закруцілася ў маёй галаве, пачалі мяшацца літары, словы, сказы некалі прачытаных тэкстаў. Усё ясна: гэта знак ведзьмака. Я быў шчаслівы, што так хутка ўсё скеміў. Ваўкалак! І гэтая кроў на губе, і згаданыя ім ваўкі... Мяне азарыла: гэта ён зжэр маю карову... Я закалаціўся, затросся, немарасць апанавала маё нутро, я быў нібы вулкан, заведзеная бомба, перапоўнены мачавы пухір, які, здавалася, зараз разарвецца, выбухне, каб аж разнесла сцены сельсавета.

Авохці мяне! Што гэна робіцца?! Нешта не так з галавою... Які ўжо раз у галаву лезуць нейкія дзівосныя звіды — то прымроіцца, як малаказборшчыца лётае на памяле, то падасца старшыня-ваўкалак. Я патрос галавой — крыху ачомаўся. Разгледзеўся па баках — я быў у цемнаватым ды халодным сельмагу. Сытая з цела прадавачка была ў сінім халаце, накінутым на тоўстую швэдру, каўнер якой вытыркаўся ды цярабіў другое падбароддзе жанчыны. Я стаяў ля паліцы з кнігамі — нешта перабіраў, гартаў. Кнігі, здавалася, ляжалі тут з часоў Савецкага Саюза — «Вайна і мір», «Палескія рабінзоны»... Рэшта асартыменту таксама не сказаць каб была надта багатая: пячэнне, мыла, шкарпэткі, вада «Дарыда»...

— Баляславаўна, ведаеш жа ты Таіску? — важачы селядзец на сініх вагах з іржавымі плямамі, запыталася мажная прадавачка ў жанчыны ў фіялетавай капоце, што падышла да прылаўка.

— Якую Таіску? Што сын з цыганкай ажаніўшыся? — кабета ў фіялетавым, пэўна, жыла недзе ў наваколлі.

— Не, гэна Тонька са Скілондзішак, у яе цяпер усе шафы на замках, бо надта нявесткі баіцца. А я пытаюся пра Таіску са Жвірблішак, што раней у магазіне рабіла, а што выгналі за нястачу...

— А-а-а, гэна тая, якую людзі ў магазіне праз парог жэргалі, бо п'яная яшчэ дзверы адамкнула, а да касы ўжо не дапаўзла?

— Тая, тая, — з адчуваннем уласнай перавагі затахкала гандляркa. — Слухай, кусок анкаголкі, а вялікай паняй носіцца, — з асуджэннем цягнула прадавачка. — Са склепа Станкевічыхі павыносіла кампоты, варэнне трускаўкавае і хадзіла па Азяранах прадавала. А Станкевічыха найбольш бедавала па грыбох марынаваных і аджыцы. Такія грыбы, казала, хрумсткія ўдаліся, а аджыку дык ставіла па рэцэпце з кнігі, і надта ж файная выйшла. А пазней Таіска, усё гэта прадаўшы, як запіла, дык з работы, з фермы, куды яе пасля магазіна ўзялі, тры дні не прыходзіла. Мужык узяў вяроўкі, сеў на ровар і на ферму даўся. Таіску на ферме спутаў, прывязаў да ровара і паехаў, а яна ляцела ззаду. Інакш ніякай рады на яе не было.

— Не кажы, Казіміраўна. Як мужык п'е — дык у хаце гарыць адзін вугал, а як баба — дык усе чатыры гараць, — уздыхнула суразмоўніца.

Дзверы адчыніліся, запусціўшы ў краму холаду. Да прылаўка прыдыбала сухая, як бадыль позняй восенню, кабеціна ў звіслай швэдры і трэніках.

— Дзевачкі, у майго Сашкі, мужа, Дзень нараджэння. Што яму купіць? Падкажыце.

— Купі адэкалон, — без вялікай пашаны сказала прадавачка, падміргнуўшы таварышцы па плётках.

— Нашто яму той адэкалон, на работу на зернясклад будзе душыцца ці што? Які ўжо з яго кавалер? — не згадзілася кабета-бадыль.

— Ну, кнігу тады, во, бяры «Палескія рабінзоны», — прадавачка працягвала даваць прапановы.

— Не чытае ён у мяне, зрок кепскі...

— Добра, вазьмі трусы сямейныя. Паглядзі, якія файныя, з добрага матэрыялу зробленыя, — гандлярка тыцнула пальцам злева ад сябе, дзе пад шклом побач з мылам ляжалі акуратна складзеныя сямейнікі.

— Ат, дзевачкі, не думайце, што ён у мяне басяк ці галадупнік які. Мае ён тых трусоў ад ліха, — зморшчыла лоб худзеліца.

— Ну, тады я ўжо не ведаю нават, — здалася крамніца.

Кабета-бадыль пачухала патыліцу ды надта штучна, але ў сваім уяўленні нібы Архімед ускліднула:

— Знайшла што! Дайце тры віна! Нармальны падарак будзе...

Прадавачка, ледзь стрымліваючы смех, схілілася да віннай скрынкі, а бутэлькі ў ейных руках задзынкалі, нібы граючы ўрачысты марш для імянінніка. Худая кабета заплаціла і хуценька, бы матыль, зляцела цешыцца толькі што купленым нектарам.

— Во яшчэ адна чыкса, зорка, што ўся ў золаце. Але золата ёй надта, мусіць, муляе, дык яна лепей у трэніках, — скаментавала гандлярка. Ейная суразмоўніца толькі пацягнула носам.

— А ты чула, Казіміраўна, што старшыня сельсавета прапаў: выйшаў вечарам з працы і дахаты не прытопаў, трэці дзень ужо няма? — падзялілася пакупніца, якая, мяркуючы па ўсім, надта любіла часаць язык сабе і мыць косткі іншым.

— І дзе ж ён мог дзецца?

— Ніхто не ведае... Я дык глядзела па тэлевізары, што людзей іншапланецяне крадуць. Прылятаюць і святло такое на чалавека напускаюць, што яго забірае. Потым яго трымаюць у звярынцах такіх спецыяльных, у цырках сваім дзецям паказваюць.

— Во як! А я дык думаю, што дзе там тыя іншапланецяне да нас на талерках маглі прыляцець, калі нават аўтобус не кожны дзень ездзіць. І чаго яны старшыню забралі, няўжо дзе ў Амерыцы не было каго лепшага, чым гэны таўкач.

— Дык яны і кралі, пэўна, такога, па кім ніхто плакаць не будзе занадта.

— Ой, цяжка паверыць, што яны над нашай вёскай віселі ў талерцы, як клёцкі нейкія, і правяралі, ці ёсць каму бедаваць па старшыні... Запіў недзе той ашавурак — ды і ўсё. А што бедаваць ніхто не будзе, дык яшчэ якая праўда. Як жа ён жонку сваю малаціў, колькі разоў яна па вёсцы з фінгаламі хадзіла. Ён для чужых неблагі чалавек: і паможа, і старым брыкету таннейшага нейкага выпіша. А для сваіх міласці зусім не мае, як кат які.

— Раўнуе жонку, — падтрымала размову пакупніца. — Надта баіцца, каб па мужыках не пайшла. А тая, бядуліна, дык дахаты баіцца прыйсці. Казалі, варыла нейкую зацірку і яму не так неяк адказала, як ён хацеў. Дык той падляцеў да яе — і ў морду, і яшчэ, і давай па галаве таўчы. Ягоная матка была прыйшоўшы, заступілася за нявестку, дык ён і яе давай кулакамі мясіць, а пазней узяў зацірку, што гатавалася, і матцы на галаву выліў...

— Сцеражы, Божа... — завохкала прадавачка.

— А сам даўся ў хлеў. Дык тая матка абвараная за ім паляцела, бо шкадавала, каб хаця не павесіўся.

— Хай бы ўжо, брыда паскудная, вешаўся...

— Жонка тым часам вызвала міліцыю. Дык матка не сказала міліцыі, што ён яе абварыў, а што сама паслізнулася. А матцы той у бальніцы потым скуру на твар з кумпяка перасаджвалі. Во як яно бывае. І гадуй тут дзяцей.

— То гэна ўжо не чалавек, хто на матку руку падымае. Гэна ўжо звяруга, ваўкалак...

— Я і кажу: прапаў — і добра, мусі, чэрці яго ўкралі, — згадзілася наведніца крамы.

Я згадаў сваю візію пра старшыню, што так здзівіла мяне. Мая падсвядомасць, відаць, падказала мне, што хаваецца за шэрым гарнітурам і мярцвяцка-белай скурай гэтага чалавека. Добры з мяне экстрасэнс, радаваўся я сваёй моцнай інтуіцыі, якая, як лічыў, дапаможа мне ў жыцці.

Я ўзяў з паліцы «Палескіх рабінзонаў». Паглядзеў на кошт — 15 тысяч. З кнігаю я падаўся да прылаўка. Працягнуў гандлярцы грошы і паказаў кнігу. Яна, не кінуўшы на мяне нават вокам, зноў звярнулася да суразмоўніцы:

— Баляславаўна, паскудства дый годзе. Валька Запраўшчыца звяла хлапца маладога Садоўшчыка, які яшчэ ў 10-ым класе вучыцца.

— Як звяла? — рытарычна запыталася жанчына ў фіялетавым. — А колькі ёй самой гадоў?

— Ды пад сорак ужо, мусі. Наняла яго дровы пакалоць, а потым дык штовечар той да яе на гарбату прыязджаў, — хіхікала прадавачка.

— Пакаштаваў малец нечага ды пасмакавала яму...

— І раз быў на танцах у клубе, і Валька прыйшла, дык яны ўжо, не саромеючыся, мацалі адно аднаго. А нехта ж данёс матцы малога — як жа яна прыляцела з кіем, як жа яна іх там чыхвосціла, не гледзячы, толькі пара з носу ішла...

— А бацька што?

— Памёршы даўно стары Садоўскі, — казала крамніца.

— Можна разлічыцца? — не вытрымаў я чакання.

— Паслухай, Баляславаўна, нейкае рэха ідзе, — натапырыла вушы жанчына.

— Ды нібы муха бруздзжыць ці камар пішчыць, — згадзілася размоўніца.

Я глянуў на сябе. Мае рукі былі тонкімі камарынымі ножкамі з валасінкамі. Раптам засвярбеў нос, выцягнуты ў камарыны хабаток. Здавалася, неба зараз абрынецца, сплюшчыць мяне разам з вясковаю крамай. Я адчуваў сябе так, нібы на сваіх худых камарыных плячах трымаў бяскрайнія нябёсы. Мне было сцюдзёна — я сядзеў на кнізе і тросся з холаду. Што сталася і што будзе далей — ад гэтага мае камарыныя мазгі закіпалі. Няўжо мяне нехта зачараваў? Найбольш дакучала думка: хто цяпер падоіць маіх кароў? А можа, я заўсёды быў камаром, які толькі на момант уявіў, што быў чалавекам і меў дзвюх кароў — рабую і рудую...

*Жупраны*

**Віктар Шукеловіч**

пісьменнік. Нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**ДАІ Гродна прэзентавала дызайн новай сацыяльнай рэкламы — з нацыянальным каларытам.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Адна з прыгожых традыцый Адвэнту (Калядны пост у каталікоў — ад лацінскага слова «adventus», што азначае «прыйсце») — ратарняя святая імша ў гонар Найсвяцейшай Панны Марыі. Звычайна гэтая літургія адпраўляецца на світанні. Падчас імшы запальваецца свечка, якая з'яўляецца галоўным сімвалам і закліканая асвятляць шлях, каб адшукаць царкву да ўзыходу сонца. Такая свечка з'яўляецца сімвалам Марыі — ранішняй зоркі, з якой вернікі ідуць да Хрыста (ён з'яўляецца сапраўдным святлом). Звычайна гэтую літургію служаць на досвітку, а вернікі прыходзяць на яе з запаленымі свечкамі. Фота зроблена ў Жодзіне.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**На Кастрычніцкай плошчы і ля Палаца спорту ў Мінску пачаўся Калядны кірмаш. У гандлёвых кропках, па-еўрапейску стылізаваных пад драўляныя дамкі, можна будзе набыць не толькі сувенірную прадукцыю, але і гарачыя стравы і напоі нацыянальнай кухні.**



**«Бандэраўскія» памежнікі едуць дахаты на ратацыю.**

## Анекдоты і жарты

* * *

У Пуціна спыталі:
— Што з рублём?
— Ён упаў.

* * *

Хто не скача, той маскаль!
А рубель скача...

* * *

Здай свой дом у Тайландзе за $500 на месяц і едзь на даўншыфтынг у Маскву.

* * *

Масква. 16 снежня. Два рублі таму я заварыў гарбату, і яна яшчэ цёплая.

* * *

Цяпер я зразумеў расійскі выраз: «Растёт не по дням, а по часам!»

* * *

У Расіі 4 лістапада Дзень еднасці, а 16 снежня — Дзень абяднення.

* * *

— А мне заробак словамі пісаць?
— А які ў цябе?
— 2 млн 720 тыс. рублёў.
— Слязьмі пішы.

* * *

Жанчына! Не даводзь мужа да кіпення. Бо ён можа выпарыцца...

* * *

Чым больш купіш у Егіпце магнікаў, тым хутчэй хочацца вярнуцца дахаты да лядоўні.

## «НН» сто гадоў з вамі

**1914-ты**

Сыходзіш ты туды, скуль не прыходзяць,
Але сваіх не забярэш слядоў...
О год! Такіх, як ты, час рэдка родзіць!
О год! Такі ты першы між гадоў!

**Янка Купала**
**«НН». №49. 1914.**

**Новы твор пра Лукашэнку**

У Санкт-Пецярбургу выйшаў раман Уладзіміра Падгола «Куля для прэзідэнта». Гэты ёмісты твор быў напісаны мінскім сацыёлагам у 1996—1997 г. Пачатак надрукавала віцебская газета «Выбар» у чэрвені 1997 г. Наклад арыштавалі разам з рэдактарам Барысом Хамайдам, пракуратура распачала крымінальную справу па факце зневагі прэзідэнта. У лістападзе 1998 г. справу прыпынілі, а ў студзені 1999 г. адкрылі зноў. Увесь гэты час У.Падгол дапрацоўваў твор.

**«НН». №47. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 16.12.2014.
Замова №4960.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

